БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»



# МЁРТВЫ ХАПАЕ ЖЫВОГА

*Урад РБ аб'явіў новую вайну беларускай мове*

Напачатку чэрвеня рэдакцыя газэты «Наша Ніва» атрымала папярэджаньне Дзяржкамдруку аб «недапушчэньні скажэньня агульнапрынятых нормаў выкарыстоўваемай мовы». Рэч у тым, што «Наша Ніва» ўжывае несавецкі правапіс, які быў забаронены ў БССР у 1933 годзе, калі была прынятая пастанова народных камісараў аб спрашчэньні беларускай мовы і набліжэньні яе да мовы расейскай.

Звычайны грамадзянін на такую навіну толькі сьцепане плячыма: маўляў, хай пішуць як хочуць, калі іх нехта чытае, абы нічога благога не рабілі. Але ў тым і рэч, што несавецкі правапіс — той, за які многія сотні нашых землякоў былі замучаныя ў ГУЛАГу — стаўся такім самым нацыянальным сымбалем, як герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг. Вось чаму пасьля забароны герба і сьцяга ў 1995 годзе Лукашэнка ўзяўся за правапіс, каб давесьці ненавіснае яму нацыянальнае адраджэньне да поўнае дэмаралізацыі.

Хаду ягонае думкі прасачыць няцяжка — няхай усе гэтыя нацыяналісты, БНФ, ТБМ і іншыя пісьменьнікі-дэмакраты змагаюцца за Беларусь пад савецкай сымболікай, пад якой Беларусь ужо аднойчы была зьнішчаная, няхай пішуць такім правапісам, якім пісаліся расстрэлы ў Курапатах. У выніку яны натуральным чынам вымруць, разам са сваім «языком, на якім нельга выказаць нічога глыбокага». Гэта ж менавіта наркомаўскую мову меў на ўвазе прэзыдэнт РБ. І трэба прызнаць, што ягоная палітыка прыносіць свае плады. Таптаньне і застой назіраюцца ў стане нацыянальных дэмакратаў. Мяне задавальняе такая апазыцыя, — кажа прэзыдэнт.

Матэрыялы пра новую вайну ўладаў супраць мовы друкуюцца на 2 і 3 старонках.

# НАША НІВА

**№ 11 (108) 15 чэрвеня 1998 г.**



ТЭМА НУМАРУ

## Страчаная спадчына

*Беларускія спэцыялісты ў ахове помнікаў архітэктуры ўсё менш схіляюцца да татальнага аднаўленьня ўсёй страчанай спадчыны і ўсё часьцей гавораць пра знос...*

Новая кніга выдавецтва «Полымя» «Страчаная спадчына»* мае грунтоўны выгляд і распавядае пра зьнішчаныя беларускія замкі, бажніцы, сядзібы, гарады. Аўтары — спэцыялісты ў гісторыі архітэктуры — не толькі пералічваюць факты, але й выказваюць свае думкі наконт аднаўленьня страчаных помнікаў, наконт становішча рэстаўрацыйнае справы ў краіне.

Прыгадваецца іншая публікацыя на гэтую ж тэму — дыскусія дзесяцігадовае даўніны на старонках часопіса «Нёман».




*Страчаная спадчына. Т.Габрусь, А.Кулагін, Ю.Чантурыя, [А.Квітніцкая], [М.Ткачоў]. Укладальнік Т.Габрусь. — Менск: Полымя, 1998. 3[illegible]0 с.*

Тады, у 1989-м, у рэдакцыі «Нёмана» сабраліся рэстаўратары-практыкі і культуролягі. Яны таксама пералічвалі разбураныя шэдэўры і разважалі пра філязофію аховы помнікаў у Беларусі. Розьніца паміж новай кнігай і тым нёманскім круглым сталом не ў пераліку зьнішчанага, зразумела, а менавіта ў падыходах да культурнае спадчыны. У 89-м размова ўвесь час зводзілася да таго, як зрабіць захаваньне спадчыны важнай для грамадзтва справай. Гучала шмат новых, «перастроечных» спадзеваў на заканадаўства, якое мусіць нарэшце запрацаваць і пакараць чыноўнікаў, вінаватых у зьнішчэньні помнікаў.

У сёньняшняй Беларусі, як у даўнейшыя савецкія гады, ніхто не спадзяецца на тое, што помнікі абароніць закон і суд. Затое ўжо першы сказ анатацыі ў «Страчанай спадчыне» ставіць зусім іншыя акцэнты: «Незьлічоныя ваенныя ліхалецьці, а таксама (увага!) НЯДБАЙНАЕ СТАЎЛЕНЬНЕ ДА СВАЕЙ КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ пазбавілі беларускі народ многіх каштоўных архітэктурных збудаваньняў». Такое вытлумачэньне цяжка ўявіць сабе дзесяць гадоў таму і зусім немагчыма ўявіць у кнігах па архітэктуры якой заўгодна іншай краіны і нацыі. Выходзіць, народ пазбавіў сябе сваіх каштоўнасьцяў сам?.. У такім сьцьверджаньні прыхаванае горкае расчараваньне спэцыялістаў, якім так і не ўдалося зрабіць адраджэньне справаю ўсёй нацыі.

Што яшчэ зьмянілася ў поглядах на беларускую матэрыяльную спадчыну за мінулыя дзесяць гадоў?

*Гэтую тэму ў нашым завочным абмеркаваньні працягвае гісторык архітэктуры Сяргей Харэўскі на старонках 8-9.*



### РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ
### ПРЭЗЫДЫЮМ
### ЗАКЛІК ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

Дарагія Суродзічы!

Падчас сэсіі Эўрапейскага Сэктару Рады БНР, у ліпені 1997 году ў Вільні, паўстала ініцыятыва магутнага руху за дэмакратычны лад і дзяржаўную незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны, руху грамадзянства БНР. Ініцыятарамі гэтага руху былі чатыры патрыёты Беларусы, якім я тут пакланяюся. Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Сяргей Шупа і Сяржук Сокалаў-Воюш.

Тысячы нашых суродзічаў ужо злажылі заявы вернасьці ідэалам БНР, вернасьці незалежнай, дэмакратычнай, вольнай нашай Рэспубліцы, дзе правы чалавека ня будуць пустаслоўем, дзе народ наш будзе заможным гаспадаром у сваім уласным доме.

Дасюль акцыя запісваньня ў грамадзянства БНР праводзілася галоўным чынам Беларускім Народным Фронтам і газэтай «Наша Ніва». Гэтым хачу выказаць Фронту, а таксама Маладому Фронту і «Нашай Ніве» ўдзячнасьць за ўсё зробленае і спадзяваньне, што акцыю гэтую яны будуць прадаўжаць.

Зьвяртаюся сёньня да ўсіх сяброў дэмакратычнай Апазыцыі, усіх грамадзянаў Беларусі, якія хочуць прысьпяшыць паварот да нармальнасьці ў нашай краіне, прысьпяшыць паварот Беларусі ў Эўропу. Зьвяртаюся да ўсіх суродзічаў, якія падпісалі Хартыю-97. ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА РУХУ ГРАМАДЗЯНСТВА БНР!

Разам мы зробім нашую Бацькаўшчыну незалежнай і вольнай Эўрапейскай дзяржавай, зь якой ня трэба будзе эміграваць, каб шукаць на чужыне лепшых умоваў жыцьця, дзяржавай БЕЛАРУСКАЙ, якой улады ня будуць зьдзекавацца з нашай спадчыны, нашай мовы, нашай культуры ды нашых людзей толькі за тое, што яны адмаўляюцца здраджваць сваю Бацькаўшчыну.

Разам мы адродзім Беларускую Народную Рэспубліку!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Івонка Сурвіла,
Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

Мітрапаліт Ізяслаў з Божае Ласкі Першагерарх



Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

### ПРЫВІТАНЬНЕ

Годнаму Чэсьці Духавенству й Любым Вернікам ды Ўсім Праваслаўным Беларусам у Духоўным і Сьвецкім Стане, што да Свае Роднае Праваслаўнае Царквы ймкнуцца,

Зь 50-мі ўгодкамі ўзнаўленьня дзейнасьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы:

Любыя праз Хрыста Браты й Сёстры!

Пяцьдзесят год назад, у дзень памяці Сьвятое Еўфрасіньні, Князёўны Полацкае, 5-га чэрвеня 1948-га году, у нямецкім месьце Канстанцы адбыўся зьезд, або, інакш кажучы, Сабор беларускіх праваслаўных вернікаў і духавенства, што ўзнавіў дзейнасьць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы за межамі роднага Краю.

Узнаўленьне гэтае дзейнасьці стала неабходным пасьля таго, як два гады раней чужы паводле перакананьняў япіскапат зрадзіў ухваленую ў жніўні 1942 году на Ўсебеларускім Саборы ў Менску аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы й перайшоў у варожую юрысдыкцыю.

Збылося ж яно дзякуючы згодзе сястрыное Ўкраінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы дапамагчы ўзнавіць беларускі япіскапат, першагерархам якога стаў часова адлучаны дзеля гэтае мэты сьв. пам. Архіяпіскап Сяргей (Охотэнко).

Сьледам за саборам у Канстанцы быў усьвячаны непахісны ў Праваслаўнай Веры ды патрыятычных пачуцьцях першы беларускі япіскап Васіль (Тамашчык), а пазьней і іншыя.

Пад кіраўніцтвам свайго япіскапату ўзнавіла пастырскую дзейнасьць і частка ранейшых, ды былі ўсьвячаныя новыя сьвятары БАПЦ і, гэткім чынам, духовай апекай роднае Праваслаўнае Царквы была абнятая вялікая частка пасьляваеннае беларускае эміграцыі ў вольным сьвеце.

Слаўная падзея, 50-я ўгодкі якое сёньня адзначаем, важная, аднак, ня толькі дзеля выніклых зь ее царкоўна-арганізацыйных асягненьняў, але, перш за ўсё, дзеля ее духовае велічы й сымбалічнага значаньня.

У ёй, бо, выявілася й збылося нарoджанае яшчэ ў пору даўніх княстваў ды ўзрослае ў нашай магутнай задзіненай дзяржаве, Вялікім Княстве Літоўскім, перакананьне з пакаленьня ў пакаленьне ймкненьне нашага Народу займець верную Божым наказам ды прыязную яму, а не чужым інтарэсам, Праваслаўную Царкву.

Змаганьне за ўжыцьцяўленьне гэтага ймкненьня ўздымалася неаднойчы на працягу нашае гісторыі ды за кожным разам, не асягнуўшы мэты, было перамаганае варожымі сіламі.

Перамогі варожых сілаў не зламалі, аднак, волі нашага пабожнага Народу й, як толькі ягонай частцы пашчасьціла выйсьці ў вольны сьвет, яна ў першую чаргу ўзнавіла дзейнасьць свае роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Гэтае ўзнаўленьне адбылося ня з ласкі кіраваных палітычнай кан'юнктурай нянаскіх царкоўных вяльможаў, а, перадусім, праз ахвярнасьць лепшых сыноў нашага Народу, што, не зважаючы на цяжкасьці й небясьпекі, узьнялі на іхныя плечы крыж архіпастырскага й пастырскага служэньня, ды тых вернікаў і верніц, што праз усе нягоды гэты крыж нясьці дапамагалі.

А той крыж даводзілася й даводзіцца нясьці пакутніцкай дарогай, бо адвечныя ворагі дасюль ня спынілі іхных намаганьняў «паразіць пастыраў і расьцярушыць авец», а кіраўнічыя беларускія незалежніцкія дзейнікі не дарасьлі яшчэ, каб бачыць у Царкве, замест паслухмянае выканальніцы іхных захацяў, натхняльную духовую сілу на адраджэньне нашага Народу.

Затое пабожныя праваслаўныя патрыёты на Бацькаўшчыне сілу свае Праваслаўнае Царквы разумеюць і пачынаюць рабіць першыя крокі, каб узнавіць там родную ім Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.

Гэткім чынам, вызначаная Богам ды ўсімі намі чаканая, пара, калі нашая Царква, ператрываўшы паўстагоддзьдзя цяжкіх выпрабаваньняў на чужыне, але захаваўшы нязгаслы зьнічь аўтакефаліі, або царкоўнае незалежнасьці ад усялякіх вонкавых дзейнікаў, верне яго на Бацькаўшчыну.

Верне яго, не каб абняць там уладу, але каб асьвятляў ён сэрцы й розумы вернікаў ды натхняў іх на ажыўленьне цела роднае Царквы ў Краі, дзе ў будзе служыць Богу і Бацькаўшчыне ды часткаю Якое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царква, што дзее за мяжою, была й застанецца.

Пазнакі набліжэньня пары радаснага вяртаньня нашае Царквы да жыцьця ў Краі, ды з чужыны й пабуджаюць мяне прывітаць Вас, Любыя праз Хрыста Браты й Сёстры, зь 50-мі ўгодкамі падзеі, што была пачаткам гэтага вяртаньня.

Празь 50 год, што пасьля яе зыйшлі, шмат было асягнута, каб гэтае вяртаньне, або ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне зрабіць магчымым, але й нямала чаго засталося некранутым, або й было страчанае.

Вітаючы Вас сёньня йз слаўнымі ўгодкамі, я разам і заклікаю не здавальваца здабытым, а працаваць і змагацца за далейшыя асягненьні.

Пачынальнікаў узнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне клічу не спыняць змаганьня за нашую, дагодную Богу, Справу ды асьцерагаю ад пасткаў супрацоўніцтва зь цяперашняй царкоўнай уладай, якія гэтая ўлада апошня пачала ставіць.

Пабожных і патрыятычна настроеных суродзічаў за межамі роднага Краю заахвочваю засноўваць малітоўныя грамады ці парахвіі БАПЦ, бо толькі гэтыя згуртаваньні забясьпечваюць выжываньне беларускіх асяродкаў у чужым навакольлі.

А да вернікаў БАПЦ у Ейных парахвіях і праваслаўных беларусаў у заходнім сьвеце зьвяртаюся з заклікам шчыльней згуртавацца вакол свае Царквы, больш ахвярна памагаць Ёй і працаваць на Ейную карысьць, ды патрымоўваць справу ейнага ўзнаўленьня на Бацькаўшчыне.

Гэтак, во, разам дзеючы, мы й асягнем мэту ўзнаўленьня вернае Божым наказам ды прыязнае патрэбам нашага Народу Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, да якое ймкнуліся пакаленьні нашых папярэднікаў, дзе завязяй якое быў Сабор у Канстанцы, што ягоныя 50-я ўгодкі цяпер адзначаем.

Няхай жа наш Збавец Ісус Хрыстос, праз малітвы Божае Маці й Сьвятых Беларускае Зямлі, дае Вам Ягоныя шчодрыя Ласкі й мае Вас у апецы, ды памагае Вам праз жыцьцёвыя ўдачы служыць Яму й верным Яму Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Сьцеражы, Божа, Беларускі Край!

*Мітрапаліт Ізяслаў, Першагерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

*Замежжа, Чэрвень Божага Лета 1998-га*

# МЁРТВЫ

*Тэкст папярэджаньня Дзяржкамдруку цалкам надаецца на канспэкт азнаямляльнае лекцыі па несавецкім беларускім правапісе, таму мы вырашылі перадрукаваць яго цалкам, захоўваючы мову і памылкі арыгіналу:*

**«ПАПЯРЭДЖАННЕ**

аб парушэнні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі»

29 мая 1998 г. №26

Рэдакцыі газеты «Наша ніва» на падставе артыкула 16 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» аб парушэнні артыкула 6 Закона

Сутнасць парушэння (кароткі змест):

У аснове ўжываемага газетай «Наша ніва» пакладзены арфаграфічныя правілы, якія ўжываліся ў беларускай мове ў 20-х гадах нашага стагоддзя, але былі адменены правапіснай рэформай 1933 г.:

- паслядоўна абазначаецца асіміляцыйная мяккасць зычных мяккім знакам у розных пазіцыях у слове (зьмест, сьвет, сьвята і інш.);

- цвёрдыя зычныя ў словах іншамоўнага паходжання адзначаюцца шляхам напісання пасля іх галосных «э», «ы» (апазыцыя, бэнзын, газэта і інш.);

- захоўваецца мяккі гук «л» у словах іншамоўнага паходжання (дыялёг, кляса, парлямэнт, філёляг);

- злучнік «і» перадаецца праз «й» пасля слоў, якія канчаюцца галосным гукам (ахвяры й каты, вольны й незалежны, доўга й шчасліва і інш.);

- адмоўе «не» перадаюцца праз «ня» перад словамі, дзе націск прыходзіцца на першы склад (ня ведаю, ня зможа, ня схільны і інш.);

- неабмежавана выкарыстоўваецца канчатак -аў/яў (асобаў, ахвяраў і інш.);

- шырока ўжываецца канчатак -ае прыметнікаў жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку (беларускае мова, вайсковае службы, нацыянальнае ідэі і інш.);

- ужываюцца словы, якія не фіксуюцца слоўнікамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы:

а) словы, якія адрозніваюцца ад аднакаранёвых літаратурных адпаведнікаў гукавым складам або словаўтваральнымі сродкамі — апатэоз (апафеоз), даляр (долар) і інш.,

б) іншакаранёвыя ўтварэнні, для якіх у беларускай літаратурнай мове існуюць дакладныя семантычныя адпаведнікі — асобнік (экземпляр), відзежа (бачнасць), гледзішча (пункт погляду), улётка (лістоўка) і інш.

У адпаведнасці з артыкулам 6 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» не дапускаецца скажэнне агульнапрынятых нормаў выкарыстоўваемай мовы.

Старшыня М.В.Падгайны».

*Пракамэнтаваць гэты дакумэнт мы папрасілі найперш ягоных аўтараў.*

### «КОНІ НА БАЛКОНЕ»

**Сяргей Шупа**

Мэтаю майго невялічкага расьсьледаваньня было выявіць юрыдычныя падставы зьяўленьня згаданага папярэджаньня. Рэч у тым, што адпаведны пункт Закону аб друку — той, што датычыць правапісу — быў прыняты ў больш мяккай у параўнаньні з праектам фармулёўцы. Замест фармулёўкі «афіцыйна зацьверджаны» правапіс, была прынятая больш расплывістая — «агульна прыняты». У ёй няма тэрміналягічнай дакладнасьці, юрыдычнай адназначнасьці, а гэта пакідае пэўную свабоду дзеяньня таму, хто прымае пастановы. Ці ёсьць нейкія адмысловыя інструкцыі, камэнтары, дадаткі да закону, якія ўдакладняюць сэнс гэтай «агульнай прынятасьці», спасылаюцца на пэўны лінгвістычны кодэкс, акадэмічную граматыку, слоўнікі? Бо вядома, што нават у рамках шырока ўжыванага г. зв. савецкага правапісу — наркомаўкі — ў розных слоўніках і граматыках дапускаюцца вельмі істотныя адхіленьні ў адзін або другі бок.

Маім першым суразмоўцам быў старшыня Дзяржаўнага Камітэту ў Справах Друку Міхась Падгайны, чый подпіс стаіць на дасланым «Нашай Ніве» папярэджаньні.

**— На падставе чаго рыхтавалася гэтае папярэджаньне?**

М.Падгайны: Мы давалі газэту на заключэньне ў Інстытут мовазнаўства Акадэміі Навук па прымяненьні правапісу. Рэч у тым, што такі артыкул існуе ў нас у Законе аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі. І гэта папярэджаньне пра тое, што існуе закон, які трэба выконваць. Гэта не азначае, што газэта будзе зачынена. Гэта не артыкул пяты, паводле якога на падставе двух і болей папярэджаньняў можна закрываць выданьне.

**— А калі наступны нумар газэты ўсё адно выйдзе гэтым правапісам?**

М.Падгайны: Ну, тады мы зьвернемся ўжо ў суд. Дзяржкамітэт ня мае права зачыняць газэту. Але мы як суб'ект, які сёньня займаецца рэгістрацыяй газэт, зьвернемся ў суд, які можа закрыць, аштрафаваць і г.д.

**— Моладзь вас памятае даўно, мабыць, яшчэ з часоў «Талакі». І напачатку беларускай незалежнасьці, напачатку 90-х вы былі адным з тых, хто дапамог «Нашай Ніве» атрымаць дзяржаўную датацыю...**

М.Падгайны: Безумоўна. Я тады працаваў у Міністэрстве культуры. Я і зараз гатовы падтрымліваць «Нашу Ніву», нягледзячы на тое, што яна, мякка кажучы, не заўсёды знаходзіцца ў падтрымцы дзяржавы і, больш таго, яна крытычна адносіцца да любых дзеяньняў дзяржавы, я гатовы яе падтрымліваць і надалей. Але ж закон ёсьць закон. У свой час у Англіі існаваў закон, які забараняў трымаць коней на балконах. Ён ні разу не прымяняўся, але й коней на балконе ніхто не трымаў.

**— У законе не ўказаныя канкрэтныя базы — канкрэтная акадэмічная граматыка ці слоўнік, якія мусяць акрэсьліваць агульнапрынятасьць правапісу...**

М.Падгайны: Прабачце, гэта ёсьць у іншых законах.

**— Напрыклад?**

М.Падгайны: Ці ў Законе аб адукацыі, я ня памятаю, такія правілы былі прынятыя ў свой час, па-мойму, у 32-м ці 33-м годзе. І з таго часу гэты закон ніхто не адмяняў.

**— Вам тут як старшыні Дзяржкамдруку дадзена свабода лічыць нешта агульнапрынятым...**

М.Падгайны: Прабачце, калі ласка, ня мне, а Інстытуту мовазнаўства.

**— А ці ўсе газэты вы пасылаеце ў Інстытут мовазнаўства? Чаму менавіта «Наша Ніва» была пасланая?**

М.Падгайны: Таму што да мяне прыйшоў ліст-пратэст, што парушаецца закон.

**— Гэта быў пратэст звычайнага грамадзяніна?**

М.Падгайны: Так, звычайнага грамадзяніна. Калі сёньня нехта напіша мне, што «Звязда» парушае гэтыя правілы, я накірую газэту «Звязда» ў Інстытут мовазнаўства.

Такім чынам, вымалёўваецца гэткая схема: Дзяржкамдрук атрымлівае скаргу на «Нашу Ніву», аўтарам якой можа быць любы чытач, і Камітэт, рэагуючы на скаргу, дасылае зьвязаныя з скаргай матэрыялы ў кампэтэнтную ўстанову — у нашым выпадку Інстытут мовазнаўства Акадэміі Навук Беларусі — з просьбай даць экспэртную ацэнку.

Мой наступны званок — Аляксанд-

# БЯСКОНЦАЯ ГАРА



Памятаю, нехта казаў, што ўсё самае значнае й цікавае звычайна канцэнтруецца ў сталіцах. Напэўна, той нехта быў не беларус. Бо беларус, нават самы савецкі, ведае, што госьця свайго ці то з Арбата, ці то з Манмартра трэба везьці у Мір, Нясьвіж ці Белавескую пушчу. Адным словам, далей ад Менскай кальцавой дарогі. Туды, дзе яшчэ нешта захавалася. І мне таксама з надыходам лета карціць часьцей прарываць тое кола.

А куды накіравацца вандроўніку, як не на самую высокую кропку краіны. У Беларусі гэта Сьвятая гара. Зь літаратуры я даведаўся, што вышыня яе 345 мэтраў над узроўнем мора. Што ў 58-м годзе яе перайменавалі ў гару Дзяржынскую. І што ўвогуле знайсьці яе даволі няпроста, нягледзячы на тое, што знаходзіцца яна ўсяго за 30 кілямэтраў ад сталіцы. Сябры яшчэ болей напусьцілі туману. Ад адных я чуў, што гэта амаль беларускі Эвэрэст, вяршыня якога патанае ў шэрым крывіцкім небе. Іншыя ж казалі, што вышэйшая кропка не абавязкова павінна мець выразныя схілы й крутыя ўздымы. Але ўсё гэта толькі распальвала маю цікавасьць.

Была і яшчэ адна абставіна не без інтрыгі, пра якую даведнікі маўчалі. Паміж Балтыйскім і Чорным марамі ёсьць толькі адна кропка, адкуль яны абодва могуць быць патэнцыяльна бачныя — гара Сьвятая.

І я яе ўбачыў. Праўда ня так хутка, як думалася. Гара гуляла са мною ў хованкі. Нягледзячы на тое, што я быў узброены мапаю й дакладна даехаў да месца. Я стаяў пасярод панылага й бязьлюднага краявіду вёскі Скірмунтава й мала што разумеў. Праваруч ад мяне быў калгасны ток, а леваруч — альбо разваленая, альбо недабудаваная МТС. Неўзабаве з машына-трактарнае станцыі паказаліся людзі — два пахмурныя калгасьнікі. У якіх я й запытаўся аб славутасьці іхнай мясьцінкі. Пару хвілінаў калгасьнікі дзівіліся: «Дык Вы аж з самога Менску прыехалі?» Нарэшце да іх дайшло, навошта мяне занесла сюды «аж з самога Менску». «А, дык Вам гара тая трэба? Ды вунь яна, за плотам», — махнулі ў бок МТС калгасьнікі ды пашыбавалі па сваіх калгасных справах.

Перабраўшыся цераз плот, я ўбачыў даволі алегарычную карціну. Пасярод двара, заваленага пражавелымі трактарнымі карданамі ды згнілымі шынамі камбайнаў узвышаўся пагорачак зь пясочку вышынёй з чалавечы рост. На пагорачак быў зацягнуты гранітны камень, надпіс на якім абвяшчаў, што гэта й ёсьць «Гара Дзяржынская. Найвышэйшая кропка Беларусі». Гэткая «магіла невядомага калгасьніка», палеглага ў бітве за ўраджай. Я залез на вяршыню, стаў на камень, азірнуўся навокал... І ўсё зразумеў. Надпіс на камені хлусіў толькі часткова. Пада мною сапраўды была гара Дзяржынская. Толькі лічба хлусіла. Гару Дзяржынскую насыпалі пад свой рост і маштаб тыя, хто не знайшоў, ды ніколі й не шукаў гары Сьвятой. Якая нарэшце адкрылася. Цікава, я ледзь не гадзіну калясіў па яе спакойных схілах. Яе паўночны, балтыйскі бок быў накрыты шчыльным непраглядным лесам. Затое з паўднёвага, чарнаморскага, мне адкрываўся можа самы бясконцы далягляд з бачаных мною ў жыцьці. Чым не беларускі цэнтар сусьвету? Месца для храма ці статуі Збавіцеля... Прастаяўшы над беларускім бяздоньнем колькі хвілін, я лёгка саскочыў зь пясочнай дзяржынскай гары на беларускую зямлю. Наўрадці я буду стаяць на ёй больш цьвёрда пасьля гэтага паломніцтва. Але, зрэшты, хто ведае. Калі верыць старым назвам. Цікава яшчэ тое, што вяртаючыся ў сталіцу, я так і не заўважыў, дзе тая гара скончаецца.

**Зьміцер Бартосік**

# ГЭЙ, СЛАВЯНЕ!..

*У Празе адбыўся Ўсеславянскі Зьезд*

Дзіўнымі гукамі, якія ў звычайнага беларуса асацыююцца з фальклёрнапыхлівым заходнім суседам, у аўторак распачаў сваю працу ў Празе гэтак званы Ўсеславянскі Зьезд. Як выявілася, згаданая мэлёдыя — гэта ня толькі «Ешчэ Польска не згінэла», але яшчэ й Славянскі гімн, а заадно й Югаслаўскі — колішні фэдэрацыйны і сёньняшні сэрбска-чарнагорскі.

Зьехалася на зьезд некалькі сотняў удзельнікаў, у паведамленьнях арганізатараў гэтая лічба вагалася паміж трымастамі і пяцюстамі дэлегатаў, аднак я не бяруся яе ўдакладняць. Хто ж сюды прыехаў? Пытаньне гэта даволі складанае, бо склад, характар і статус удзельнікаў залежаў ад канкрэтнай краіны і ад стаўленьня яе кіраўніцтва да ідэі славянскае еднасьці.

Так, тры дэлегацыі атрымалі афіцыйнае блаславеньне й падтрымку сваіх урадаў, якім усеславянская ідэя найбольш грэе душу — сэрбская, славацкая і беларуская.

Цэлы шэраг дэлегацыяў меў даволі прадстаўнічы выгляд дзеля таго, што ў тых краінах панславізм мае шмат прыхільнікаў у грамадстве, аднак адкрыта не прымаецца ўладамі — так, прыкладам, расейская, дэлегацыя была найбуйнейшая і найбольш маляўнічая — тут вам і артыст Бурляеў, і архітэктар Шчукін, і навукоўцы, і бізнэсоўцы, і пару пэрсанажаў зусім камэдыйнага выгляду — у бурках, папахах, лямпасах, эпалетах, з даўжэзнымі вусамі і блізка што ня з шабляй у зубах. Гэта няйначай былі казакі, і іхная прысутнасьць надавала зьезду вадэвільны настрой. Да іх цудоўна пасавалі шчодрыя дэкарацыі ў выглядзе паўдзясятку праваслаўных харугваў.

Нарэшце, былі й зусім выпадковыя дэлегацыі, прыкладам польская, якую ачольваў Баляслаў Тэйкоўскі, лідэр экстрэмісцкай шавіністычнай мініпартыі Польская Нацыянальная Еднасьць, які нават Ісуса Хрыста лічыць жыдамасонам, а таму езьдзіць маліцца расава чыстым багам на паганскае капішча недзе пад Гнезнам.

Так ці інакш, ніводная з дэлегацыяў не прадстаўляла грамадзтва сваёй краіны ў цэлым, як гэта было 150 гадоў таму падчас першага Ўсеславянскага Зьезду ў Празе.

Гэтая сацыяльна-палітычная сумнеўнасьць праскага форуму славянаў паставіла ў цяжкое становішча чэскія сродкі масавай інфармацыі. Напачатку газэты правага кірунку паспрабавалі размаляваць зьезд у камуністычныя колеры — бо ягоныя чэскія арганізатары у большасьці сваёй належаць да тутэйшай (магчыма адзінай у Эўропе на захад ад Беларусі) камуністычнай партыі. Аднак гэта было відавочнае спрашчэньне праблемы, і таму падчас зьезду вакол яго панаваў інфармацыйны вакуум — чэхі так і не знайшлі да яго адэкватнага падыходу.

Тым часам кідаецца ў вочы істотнае адрозьненьне гэтага зьезду ад таго першага, да 150-годзьдзя якога цяперашні быў прымеркаваны і на які ён вельмі часта і, на маю думку, зусім беспадстаўна спасылаўся. Зьезд 1848 году адбываўся ва ўмовах барацьбы славянскіх народаў за нацыянальную эмансыпацыю і вызваленьне з-пад чужацкага ярма. Паводле духу свайго ён быў лібэральна-дэмакратычным і ставіў славянскую салідарнасьць падмуркам будучай незалежнасьці.

Славянская ідэя, як прыкладам і любы этнічны нацыяналізм, захоўвае пазытыўны характар аж да моманту дасягненьня галоўнай мэты — вызваленьня з-пад чужога (асабліва неславянскага) панаваньня і стварэньня роўнапраўных нацыянальных дзяржаваў. Пасьля таго, як гэта дасягнута, гэтая ідэя непазьбежна робіцца рэакцыйнай, або стаецца прыкрыцьцём нейкай іншай, адкрыта не афішаванай.

Як здаецца, у выпадку нашага зьезду мы маем справу якраз з другім выпадкам. Варта толькі прагледзець тэмы абмеркаваньняў у сэкцыях. «Эканамічнае супрацоўніцтва славянскіх народаў» — чым не адраджэньне ўжо амаль забытага Савету Эканамічнай Узаемадапамогі? «Пэрспэктывы справядлівага й дэмакратычнага грамадзтва ў XXI стагодзьдзі» — з галоўным сюжэтам — Дамо адпор НАТО — чым не адраджэньне Варшаўскага Пакту? Тое самае ў галіне сацыяльнай абароны, культуры, спорту, інфармацыі. Імкненьне вярнуць Усходнюю Эўропу, хоць бы ў яе славянскім абсягу, у сфэру геапалітычных уплываў Расеі было на зьезьдзе відавочным. Варта дадаць, што расейцы дамінавалі на ўсіх трыбунах, замілавана называючы ўсіх «братьями». Пры гэтым у цэнтры ўвагі ўсе дні зьезду была Беларусь — як адзіная частка Расеі, адкуль сёньня рэальна можна распачаць гэткі геапалітычны рэванш, DRANG NACH WESTEN.

Афіцыйная Прага прадбачала, што дух зьезду будзе, мякка кажучы, пярэчыць зьнешнепалітычнаму курсу сёньняшняй Чэскай Рэспублікі, а таму канцылярыя прэзыдэнта Гаўла, Міністэрства Замежных Справаў,

# БУКІНІСТЫЧНЫ «ПАТРЫЯТЫЗМ»

Літаральна пару тыдняў таму ў Вільні адбыўся круглы стол на тэму «Вобраз Беларусі ў літоўскіх СМІ», на якім літоўцы й беларусы пагадзіліся, што Беларусь амаль не зазначаная ў літоўскай прэсе. Маўляў, вось бліжэйшая суседка, але ўяўленьне пра яе ў літоўскае публікі самае цьмянае. Гэта тычыцца ня толькі практыкі таталітарызму. Нічога ня ведаюць літоўцы і пра сёньняшнюю беларускую культуру. Але праз некалькі дзён «інфармацыйная блякада» з грукатам была прарваная ў самым нечаканым месцы...

6 чэрвеня суботні нумар найбуйнейшай літоўскай газэты «Lietuvos Rytas» адкрыўся скандалам вакол пасольства Беларусі, якое займалася кантрабандай старадаўніх кніг. Як паведамляе газэта, работнікі дзяржбясьпекі Літвы здолелі летась папярэдзіць кантрабандавы вываз зь Вільні дзьвюх кніг XVI ст.: Статута Вялікага Княства й Трыбунала. Паводле публікацыі, аферамі з антыкварнымі кнігамі займаліся беларускія дыпламаты ў Літве, пакуль іх дзейнасьць не перапыніў Дэпартамэнт дзяржбясьпекі. Аднак, як сьцьвярджаюць супрацоўнікі бясьпекі, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ўжо ляжаць некалькі каштоўных старасьвецкіх кніг, нелегальна прыдбаных і ўсё ж вывезеных зь Вільні.

Галоўным удзельнікам гэтае кантрабандавае аферы газэта «Lietuvos Rytas» называе былога дарадцу беларускага пасольства Васіля Жлутку. Літоўскія ўлады плянавалі абвясьціць яго пэрсонаю non grata і выслаць зь Вільні, аднак тады міністар замежных справаў Альгірдас Саўдаргас прапанаваў трымаць інцыдэнт у сакрэце.

Пра кантрабандавы вываз гістарычных каштоўнасьцяў было паведамлена кіраўніцтву Літоўскае Рэспублікі. На гэты ж конт давялося даваць тлумачэньні й паслу Беларусі, былому міністру культуры Яўгену Вайтовічу, які растлумачыў, што выкрадзеныя кнігі засталіся на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і іх атрымалі нейкія невядомыя спонсары.

А што ж з кнігамі? Пра тое, якіх і колькі кніг было выкрадзена, газэта «Lietuvos Rytas» не паведамляе. Але іх лёс няцяжка прадбачыць ужо сёньня. Яны будуць недаступныя ні беларускім навукоўцам, ні тым больш народу, таму што легалізаваць іх немагчыма. Паколькі гэтая справа выйшла на паверхню, літоўцы не пашкадуюць ні сілаў, ні часу, каб вярнуць назад кнігі, якія яны ўважаюць і за свае нацыянальныя скарбы, і будуць нагадваць пра гэта на ўсіх перамовах і апэляваць да Эўропы й Расеі. Урэшце кнігі будуць вернутыя.

Затое адносіны Беларусі зь Літвою будуць сапсаваныя. Справа нават не ў чынавенстве, якое мала розьніцца ва ўсім сьвеце. Беларускім навукоўцам цяпер будзе нашмат цяжэй дабрацца да віленскіх архіўных скарбаў, бо ў кожным будуць падазраваць злодзея. Цяжка таксама будзе запярэчыць літоўскім мытнікам, якія шматкроць пільней пачнуць «трэсьці» багажы беларусаў. Цяжка стане растлумачыць калегам — журналістам, гуманітарыям ды нават звычайнаму чалавеку, чаму адукаваныя людзі зь Беларусі, дыпляматы й навукоўцы (а бязь іх не абышлося) паводзілі сябе менавіта гэткім чынам.

У складаным становішчы апынаюцца сёньня таксама і віленскія беларусы. Праекты аднаўленьня дзяржаўнага Беларускага музэю й стварэньня беларускага архіву-бібліятэкі можна ўжо й ня згадваць. На іх трапляе доўгі цень «букіністычнае афёры». Як і на ўсю тутэйшую беларушчыну ўжо даўно паклаў свой цёмны цень менскі рэжым...

Тым часам Васіль Жлутка пасьпеў атрымаць прызначэньне ў Маскву. Трэба спадзявацца, што адтуль вывозіць антыкварыят можна спакайней, дзякуй Богу, мяжы няма. Беларусам жа ў Вільні дыплямат Жлутка запомніўся найперш тым, што летась уласнымі рукамі зрываў нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг з флагштоку перад гатэлем, у якім адбывалася паседжаньне Рады БНР.

Відавочна, аргумэнт у тых, хто незаконным чынам вывез кнігі зь Літвы, гэткі: літоўцы адабралі ў нас Вільню, чаму нам не пакрасьці ў іх усё, што можна. Але апраўданьне злачынства вышэйшымі мэтамі — лёгіка тэрарызму. Напрыклад, чаму не захопліваць у закладнікі літоўскіх ці польскіх грамадзянаў і не патрабаваць у выкуп за іх нашыя скарбы з музэяў і бібліятэк. Чаму не? Усё ж для Беларусі. Але чаму для Беларусі ў той самы час у Менску не знайшлі магчымасьці, каб законным чынам выкупіць камплект кніг Скарыны ў Лёндане? У тым і рэч, што гэты рэжым са сваімі паслугачамі ня можа дзейнічаць законным чынам. Гэта супярэчыць ягонай прыродзе. Нават калі ў яго ёсьць іншая магчымасьць, ён усё ж абярэ незаконны шлях. У мэдыцыне гэтая паталягічная прага завецца клептаманіяй. Нацыяналізацыя аптэкаў, захоп дамоў, невяртаньне пазыкаў, нарэшце кантрабанда антыкварыяту... Якому б ураду гэта яшчэ магло прыйсьці ў галаву? Сёньня літоўская прэса смакуе захоп Лукашэнкам адбудаваных і адрамантаваных дыпляматычных рэзыдэнцыяў у Драздах... Такі вось атрымліваецца вобраз Беларусі ў вачох суседзяў.

**Сяргей Харэўскі**





Здымкі Анатоля Клешчука

кіраўніцтва Рыма-Каталіцкай Царквы яшчэ перад пачаткам зьезду рашуча ад яго адмежаваліся. Гэтаксама й праваслаўны праскі архіяпіскап на ўсялякі выпадак адмовіўся ад удзелу ў прымеркаваных да зьезду ўрачыстасьцях, на якія ён быў ласкава запрошаны.

Чэскія ўлады не памыліліся. Зьезд выліўся ў масавую маніфэстацыю пратэсту супраць уступленьня Чэхіі й Польшчы ў НАТО, а таксама літаральна патанаў у антынямецкіх і антызаходніх лёзунгах і эмоцыях. Найбольш дасталося Вацлаву Гаўлу. Седзячы ў залі зьезду, я шчодра папоўніў свой запас ненарматыўнай чэскай лексыкі — кожны раз, як чародны прамоўца з гневам называў імя прэзыдэнта, навокал проста пачыналася спаборніцтва — хто прыгажэй яго абзаве.

Яшчэ адна загадка, якая так і засталася неразгаданаю. Сярод 12 сьцягоў краінаў-удзельніц вісеў адзін, які я пабачыў упершыню: цёмна-сіні зь няроўным жоўтым клінам пасярэдзіне, а ўздоўж краю кліна — штук 8 белых зорак. Апытаньне чалавек 20 арганізатараў нічога не дало — ніхто ня ведаў, чый гэта сьцяг. Вось табе й славянская еднасьць.

Пасьля двух дзён працы ў сэкцыях, сёньня зьезд сабраўся на сваё апошняе пленарнае паседжаньне, на якім былі абвешчаныя ягоныя вынікі. Сярод іншага на зьезьдзе быў утвораны міжнародны славянскі камітэт, у склад якога ўвайшло па 5 прадстаўнікоў ад кожнай краіны. Наступны зьезд пастаноўлена склікаць у Менску — сталіцы адзінай краіны, якая пагадзілася стаць наступным гаспадаром гэткага форуму. Ня быў абыдзены ўвагай і гаспадар гэтай краіны — Аляксандру Лукашэнку, як адзінаму славянскаму прэзыдэнту, які даслаў зьезду афіцыйнае прывітаньне, быў накіраваны адмысловы ліст з прапановай стаць ганаровым прэзыдэнтам новаўтворанага Славянскага Камітэту. Разам з гэтым газэта Камароўскага рынку «Славянскій Набат» была зацьверджаная ў якасьці афіцыйнага друкаванага органу гэтай арганізацыі. Былі таксама прынятыя рэзалюцыі супраць пашырэньня на ўсход блёку НАТО, супраць эканамічнай блякады Югаславіі, супраць косаўскага сэпаратызму, дасланыя прывітальныя лісты маскоўскаму патрыярху і Рымскаму Папу.

На праведзенай пасьля зьезду прэсавай канфэрэнцыі не адбылося нічога надзвычайнага — яе фактычна праігнаравалі карэспандэнты галоўных чэскіх мас-мэдыяў. Каб надаць канфэрэнцыі жывасьці, я задаў правакацыйнае пытаньне кіраўніку беларускай дэлегацыі спадару Касьцьяну, папрасіўшы па-беларуску расказаць пра цяперашні стан беларускай мовы ў незалежнай Беларусі. Калі не па-беларуску, дык ня трэба, папярэдзіў я. І да гонару спадара Касьцьяна, ён на цудоўнай беларускай мове адказаў, што калі б я ня швэндаўся па эміграцыях, а прыехаў у Менск і прыйшоў бы ў парлямэнт, дык мог бы пачуць, што ён, спадар Касьцьян, выступае на паседжаньнях толькі па-беларуску. Што ж, праверыць гэта я пакідаю нашым слухачам. Адно радуе — усе яны, як выглядае, могуць выдатна гаварыць па-беларуску. Толькі дай каманду.

Мой славенскі калега запытаўся пра маральны сэнс славянскай еднасьці пасьля этнічных чыстак у Босьніі, дзе тры славянскія народы выразалі адзін аднаго. У адказ на гэта галоўны сэрб, пісьменьнік Янковіч, пачаў гістэрычна крычаць, што ў вас, славенцаў, наогул рукі ў крыві нявінных сэрбскіх салдатаў, якія падчас распаду Югаславіі прыехалі на мірных танках у Славенію, каб ратаваць славенцаў ад катастрофы сэпаратызму. Ага, значыць ёсьць славяне добрыя й славяне дрэнныя.

Аднак галоўнымі скандалістамі на зьезьдзе былі русіны, якіх арганізатары зьляпілі ў адну дэлегацыю, хоць тыя прыехалі з розных краінаў — Чэхіі, Славаччыны, Югаславіі, Вугоршчыны. Русіны нападалі на ўкраінцаў, што тыя не прызнаюць іх за асобны народ. Украінізм — казалі яны — гэта наогул германская інтрыга, каб разьбіць адзіны руска-русінскі народ. Аднак кіраўнік украінскай дэлегацыі, які, відаць, у душы быў абсалютна згодны з гэтым тэзысам, так і ня ведаў што адказаць і толькі нэрвова ўсьміхаўся. А мажны расеец, што сядзеў побач зь ім, зазначыў, што русінаў — такога народу — у слоўніку Даля няма.

Закончыўся зьезд там жа, дзе й распачаўся — пад помнікам Сьвятому Вацлаву, у самым цэнтры Прагі. Памятаю, пры адкрыцьці беларускіх дэлегатаў засмуціла поўная абыякавасьць пражанаў да таго, што адбывалася. Арганізатары сказалі нам, што проста ніхто ня ведае, — заявілі яны — аднак на закрыцьцё сюды мае прыйсьці палова Прагі — як 150 гадоў таму. Аднак на закрыцьці людзей было не нашмат болей. Пражане, што праходзілі міма калярытнага зборышча з вадэвільнымі казакамі, барадамі й харугвамі — пазіралі на яго зь цікавасьцю й неразуменьнем. Маладзейшыя, распазнаўшы сьцягі й лямпасы, зьбіралі ў памяці рэшткі даўно забытай расейшчыны й разпораз выкрыквалі: «Домой! Домой!»

Так вось няскладна й закончылася сьвята, так сказаўшы, узурпатараў славянскай ідэі. Сапраўды, славянская Прага была для іх непрыступная. Цяпер усе надзеі сусьветнага славянства пакладзеныя толькі на адзін горад — Менск. Відаць, канцэптуалістам з газэты «Славянскі Набат» давядзецца распрацоўваць тэзу аб магчымасьці перамогі панславізму ў адной асобна ўзятай краіне.

**Сяргей Шупа,**
*Прага*

## Цімох Вострыкаў:

# «Яшчэ не прыйшоў час»

*Цімох Вострыкаў. Выпускнік міхельсдорфскае беларускае гімназіі імя Янкі Купалы. Паўнамоцны прадстаўнік Рады БНР, які ў канцы жніўня 1952 году высадзіўся з амэрыканскага самалёту на тэрыторыю БССР з мэтай арганізацыі антыбальшавіцкага супраціву. Амаль адразу быў арыштаваны. Вязень мардоўскіх лягераў на працягу 23 гадоў... Ці ня самая загадковая постаць у гісторыі беларускага антысавецкага супраціву.*

Імя гэтага чалавека ўжо амаль паўстагодзьдзя прымушае беларусаў шукаць адказы на складаныя пытаньні: Чым ёсьць змаганьне супраць Саветаў? Ці існаваў трэці шлях да змаганьня за незалежнасьць паміж «молатам і кавадлам» бальшавікоў і нацыстаў? Ці існавалі ў паваенны час у беларусаў-незалежнікаў сябры, альбо былі выключна «ўласныя інтарэсы»?.. Пытаньні, якія зь пяцідзесяцігадовага мінулага перанесеныя ў сучасныя беларускія рэаліі. Сёньня вяртаецца дух «саветаў», а разам зь ім паўстаюць зь нябыту цені энкавэдыстаў, якія матэрыялізуюць прывіды «польскіх шпіёнаў», «амэрыканскае пагрозы» ды неабходнасьці ўздымаць «сусьветную рэвалюцыю» ў межах былога СССР.

Магчыма, «прывідамі» гэтыя паняткі са сталінскага лексыкону могуць назваць толькі маладыя пакаленьні беларусаў. Зь сьвядомасьці людзей сталага веку яны не зьнікалі ніколі. «Я баюся, я вельмі баюся. А што вы думаеце — прыйдуць ноччу і заб'юць», — гэтыя словы васьмідзесяцішасьцігадовае Яўгеніі Швайдзюк — сьведкі карных апэрацыяў савецкіх партызанаў — могуць стаць эпіграфам да ўсёй сучаснай гісторыі Беларусі.

Страх прымушае маўчаць, паралюшуе дзеяньні, не дазваляе жыць. Доўгі час савецкая прапаганда імкнулася пераканаць грамадзкасьць, што «самыя савецкія ў сьвеце людзі» — беларусы, ня маюць досьведу супраціву савецкай таталітарнай сыстэме. Але сёньня зь нябыту вяртаюцца шматлікія імёны тых, хто не баяўся рызыкаваць дзеля незалежнае Беларусі.

Цімох Вострыкаў не атрымаў рэабілітацыі ад «дэмакратычнай» беларускай дзяржавы пачатку 90-х, пагатоў — ад сёньняшняй. Гэтаксама як дагэтуль лічацца былымі «злачынцамі» Рыгор Клімовіч — кіраўнік самага буйнога ў гісторыі ГУЛАГу Нарыльскага паўстаньня ці Васіль Супрун — кіраўнік незалежніцкай арганізацыі «Чайка» ды безьліч іншых дысыдэнтаў.

Людзей, асуджаных за «антысавецкую дзейнасьць», сучасныя ўлады прызнаюць за вінаватых. Гэтыя людзі справядліва выклікаюць страх у цяперашніх беларускіх бальшавікоў. Кожнае сьведчаньне вэтэранаў антысавецкага руху паўторна б'е па адноўленай савецкай «жалезнай сьцяне».

Арыштаваны ў 1952 годзе, Цімох Вострыкаў выйшаў на волю ў 1975-м. Толькі напачатку чэрвеня 1998 году ён пагадзіўся даць інтэрвію для прэсы.

Зь Цімохам Вострыкавым гутарыць карэспандэнт «Нашай Нівы» Севярын Квяткоўскі.

* * *

**Ц.В.:** Я нарадзіўся 28 жніўня 1922 году ў сям'і звычайнага серадняка. Доўгі час мы ня йшлі ў калгас. Прычына была ў тым, што калгасны двор знаходзіўся амаль перад нашымі вокнамі. Нам было ўсё чутно, як там размаўляюць, што крычаць, як лаюцца: «У мяне дугу паламалі!.. У мяне сядзёлку скралі!.. Маіх вожак няма!..» І гэтак да дзясятай гадзіны раніцы. А мы, «аднаасобнікі», ужо прыходзілі з поля — накасіліся. І ўся гэтая куцярма, што была перад нашымі вачыма, была настолькі брыдкая!.. А мой бацька меў вялікі аўтарытэт сярод людзей, якія ня йшлі ў калгас. Да нас зьбіраліся — чыталі Біблію, бацька мой газэты чытаў. Ён быў сапраўдным антыкалгасным агітатарам. Усе, хто ў нас зьбіраліся, былі па-антысавецку настроеныя. Адзін быў, усё казаў: «Праўда ўжо ідзе, яна хутка прыйдзе!» Так ненавідзелі ўсе гэтую калгасную сыстэму.

Але нарэшце напачатку 1939 году ўлады вырашылі нашае «собскае кубло» разагнаць. Майго бацьку абклалі такім падаткам, што немагчыма было адплаціцца. Тады адабралі ў нас гумно, пуню, кабылу з лашонкам, карову, нават збрую забралі... Толькі курачак усіх не змаглі палавіць. Але й гэтага не хапіла, каб выплаціць падаткі. Бацьку выклікалі ў суд. А старшыня калгасу — Кажамякін — падпільнаваў яго і кажа, маўляў, калі ты, Якім, напішаш заяву ў калгас, цябе ніхто судзіць ня будзе. Наша сям'я сказала бацьку — глядзі сам. Ён усю ноч мучыўся, варочаўся, а на раніцу кажа: «Пайду ў турму». Махнуў рукой і пайшоў на суд. Далі тры гады. Сядзеў у Хальчы Веткаўскага раёну. Я да яго прыяжджаў адзін раз, перад самай вайной.

Я тады, у 1940 годзе, быў ужо настаўнікам у Маларыцкім раёне. Тых, хто скончыў сямігодку, набіралі на двухмесяцовыя настаўніцкія курсы і накіроўвалі ў Заходнюю Беларусь. У 1941 годзе, перад самай вайной, пачаліся вакацыі, і я вярнуўся дахаты. Але мне па справах трэба было ізноў вяртацца ў Маларыцкі раён. І па дарозе з Баршчоўкі да Гомеля я пачуў, што немцы ўжо ў Берасьці...

Неўзабаве мяне забралі ў войска. Забралі і гналі да Курску. Але чамусьці мяне замест войска скіравалі на капаньне акопаў, у Смаленскую вобласьць пад Гжацк. Рэч у тым, што я быў у чорным сьпісе — сын рэпрэсаванага, паводле іхнай тэрміналёгіі — «ворага народа». Нас такіх было восем чалавек. Мы ня вытрымалі і ўцяклі з тых акопаў. Але кілямэтраў праз дваццаць нас злавілі. Выкручваліся хто як мог. Я прыдумаў, нібы перад наступам немцаў уцёк зь лягеру асуджаных, назваў турму, дзе сядзеў бацька. Пасьля гэтага мяне ізноў паслалі ў чырвонае войска, ізноў пад Гжацк. Але не пасьпеў я паслужыць, як раптоўна немцы кінулі наперад свой дэсант, і мы трапілі ў акружэньне.

Калі я апынуўся ў немцаў у палоне, там, у лягеры, ужо была галадуха. Я зразумеў, што доўга не працягну. А немцы тым часам у лягеры зьбіралі афіцэраў. Навошта — ня ведаю. Магчыма, Уласаў ужо аб'явіўся. І я здолеў прабіцца ў «афіцэры», бо ж пагонаў ніхто не насіў. Урэшце, калі нас пагналі на Захад, я здолеў уцекчы. Папрасіўся ў прыбіральню, якая стаяла каля дарогі, і прыстроіўся да калёны непадканвойных былых савецкіх салдатаў...

... Прыйшоў дахаты, а бацьку ўжо адпусьцілі, бо ён пабыў дзьве трэці тэрміну. І ў гэты час мне захацелася паехаць у Нямеччыну, пабачыць, як там жывуць людзі. Я паехаў добраахвотна, але на рэжым утрыманьня гэта не паўплывала. Хіба што без канвою ехаў, а астатняе, як ва ўсіх: надпіс «Ost», аніякіх правоў... Папрацаваў я напачатку 1942 году месяцы два электразваршчыкам, а потым пабіўся зь немцам. Я хацеў памыцца ў лазьні, а ён мяне не пускаў. Ён мяне кулаком ударыў, а я яму тазікам добра настукаў. Але ж я спужаўся — што рабіць? Прыкінуўся прыпадачным, і мне далі дакумэнт, што я ня здольны да працы. Я вярнуўся ў Гомель, дзе мне далі даведку, што я добраахвотна паехаў, а вярнуўся па стане здароўя. З гэтай даведкай мяне ня бралі ані ў паліцыю, ані ў карны атрад. Нідзе я ня мусіў служыць.

Тым часам майго бацьку прызначылі солтысам у вёсцы. Але, калі ў 1943 годзе савецкая акупацыя зьмяніла нямецкую, нават тады прызналі, што на ім няма аніякіх плямаў. І толькі ў 1946 годзе адзін сапляк, якому ён адмовіўся класьці ў хаце падлогу, напляузгаў, нібыта мой бацька — Якім — расстрэльваў цыганаў. Сьведкамі былі вельмі старэнькія бабулькі. Яны пераблыталі майго бацьку зь іншым Якімам, з суседняе вёскі. Бацька памёр у ГУЛАГу ў 1948 годзе. Калі ўжо ў наш час я пайшоў у КГБ, гады тры таму, і спытаўся, за што судзілі Якіма Вострыкава, мне адказалі, што здрады за ім няма, маўляў, вы самі адзін на аднаго нагаварылі па вайне...

Што да мяне, у 1943 годзе я вырашыў сыходзіць разам зь немцамі. Меркаваў, лепш

# Рэпэтыцыі на дрэвах

## *Да гісторыі біт-руху ў Беларусі*

**«Архіў беларускай рок-музыкі» працягвае фіксаваць і сыстэматызаваць зьвесткі пра станаўленьне незалежнай музычнай традыцыі ў Беларусі. Сёньня — гутарка пра «рок шасьцідзясятнікаў», то бок пра зараджэньне традыцыяў беларускай рок-музыкі. Праўда, у той час слова «рок» амаль не ўжывалася. Замест яго ўжывалі «біт», «бітнікамі» называлі людзей, якія слухалі ці выконвалі музыку, стылістычна блізкую да «Beatles» і іншых заходніх гуртоў.**

**У БССР новыя музычныя павевы ішлі, перш за ўсё, з Польшчы, дзе ў 60-я біт-рух набыў акрэсьленыя рысы, і, як можна сёньня меркаваць, менавіта ў Беларусі ўпершыню ў былым СССР пачала нараджацца біт-музыка як праява празаходняга мысьленьня ў жыцьці і творчасьці. Да таго ж гэты рух сьведчыў пра станаўленьне сучаснай беларускай урбаністычнай культуры.**

**Адкуль пачаўся беларускі біт? Ёсьць зьвесткі, што ў 1965 годзе праходзіў біт-фэстываль ў Горадні. Але найбольш моцнай была плыня ў Менску, якая давала прафэсійных выканаўцаў нават пасьля заняпаду гэтага руху.**

**Адзін з заснавальнікаў менскай хвалі біту — Уладзімер Сьпірыдовіч, кіраўнік гурта «Весёлые лисы», які ўдзельнічаў у першым менскім біт-фэсьце, лідэр гурта «Арганаўты». Адышоўшы ад актыўнай музычнай дзейнасьці ў сярэдзіне 70-х, сп. Сьпірыдовіч яшчэ доўгі час меў уплыў на разьвіцьцё беларускай рок-культуры як прызнаны кампазытар, гітарыст, выканаўца.**

**Інтэрвію У.Сьпірыдовіча напрыканцы 1997 году запісаў Сяргей Сахараў.**

**У.Сьпірыдовіч:** Усе, хто займаўся рок-н-ролам, пачыналі зь «Beatles», запісы якіх зьявіліся тут недзе ў 1966 годзе на «саракапятках». На першай такой кружэлцы былі запісаныя дзьве песьні — «Hard Day's Night» і «Girl». Гэта была рэвалюцыя, прычым рэвалюцыя на ўзроўні сьвядомасьці, бо гук, манера выкананьня былі незвычайнымі.

У тым жа годзе ў школах, якія былі ў цэнтры Менску, пачалі арганізоўвацца вакальна-інструмэнтальныя ансамблі (ВІА). Мне ў той час было 14 гадоў і, натуральна, я захацеў стварыць нешта падобнае, але ня ведаў, як гэта зрабіць тэхнічна. Старэйшыя хлопцы ў школе зарганізаваліся, і неяк на танцах сыгралі тры інструмэнтальныя кампазыцыі. Адна справа — слухаць гэта на «саракапятках», і раптам — жывы гук. Вось гэта і стала штуршком.

Ва ўсіх школах абавязкова былі піянэрскія барабаны, адна талерка, вялікі барабан для духавога аркестра і абавязкова быў кінап — маленькі кінапраектар. Але самым галоўным быў лямпавы ўзмацняльнік і калёнка да яго на 12W. Гэта ўсё можна лічыць нашай «канцэртнай апаратурай». Мацавалася ўсё запалкамі, адаптары рабіліся ў асноўным са слухавак ад тэлефонаў (калі ад таксафонаў, калі ад звычайных хатніх) — у іх здымаліся катушкі, і такім чынам адаптаваліся самыя звычайныя гітары. У 66-м пра электрагітары, т.зв. «дошкі», наогул не было размовы — браліся звычайныя сямірублёвыя гітары, замест сёмай струны ставілі катушку — так атрымлівалася нібы бас-гітара.

Такім вось чынам ў 67-м па менскіх школах зьявіліся гурты, якія гралі ня рок, а шэйк. На танцах шэйкі выконвалі па трычатыры разы, чым выклікалі ўсеагульнае захапленьне. Трэба зразумець, што гэты рух стаўся масавым: такую музыку, патрэніраваўшыся два тыдні, гралі ўсе — нешта накшталт блатных акордаў. Такая музыка была лёгкай для ўспрыняцьця з прычыны свайго прымітывізму — пра нейкую тэхнічную ігру не было размовы. Гэта проста было новым.

У 1967 годзе адкрыўся Менскі радыётэхнічны інстытут, па тых часах вельмі лібэральны, дзе сабраліся новыя людзі, у дадатак зьвязаныя з электронікай. Там у першы ж год быў створаны ВІА, які называўся «Алгарытмы»; у іх першых зьявіліся «алгіты» — гэта ўжо сапраўдная «дошка», электрагітара — сапраўдная мара. У іх былі і бас-гітары. РТІ на той час стаў цэнтрам рок-руху. Паралельна з



«Алгарытмамі» недзе праз паўгады зьявіліся «Дойліды» («Зодчие»): хлопцы з гэтага гурта якраз скончылі політэхнічны інстытут, працавалі ў праектным інстытуце на вуліцы К.Маркса. У іх таксама былі першыя алгіты і апаратура, але толькі самаробная.

У РТІ «Алгарытмы» мелі прыстойны гук, я магу гэта казаць з упэўненасьцю, бо крыху пазьней сюды прыяжджалі піцерскія «Синие гитары», якія працавалі зь Пьехай, і ансамбаль «Электрон», які акампаніяваў Магамаеву — гэта першыя, хто пачаў афіцыйна па Савецкім Саюзе працаваць з электрычным гукам. Дык вось, нашыя хлопцы мелі такую ж, нават у нечым лепшую, апаратуру, пры гэтым яны шмат экспэрымэнтавалі, дасягалі нават па тым часе значных посьпехаў. Плюс да гэтага фанатычныя адносіны да музыкі. Тое, што выконвалі «Алгарытмы», было нашмат лепшае за тое, што рабілі «Синие гитары». Напрыклад, Жэню Канавалава, які быў кіраўніком «Алгарытмаў», «Синие гитары» шмат разоў спрабавалі забраць да сябе — гэта быў надзвычайны посьпех.

**С.С.:** Ці выступалі гурты перад шырокай аўдыторыяй?

**У.С.:** «Алгарытмы» і «Дойліды» кожны тыдзень ладзілі так званыя «танцавальныя вечары». Гэта выглядала наступным чынам: у РТІ быў арганізаваны тэатар ценяў, які ставіў нейкую канцэртную праграму. У пастаноўках тэатру ўдзельнічалі хлопцы з «Алгарытмаў», якія пасьля давалі танцы. На такія паказы практычна немагчыма было трапіць: чарга стаяла аж да пераходу на праспэкце Леніна. З усіх ВНУ, з усяго Менску людзі ехалі менавіта ў РТІ. Калі ты трапіў на гэтую вечарыну, лічы, што моцна пашанцавала.

Хлопцы гралі проста выдатна — на прафэсійным узроўні. Прычым прафэсійным музыкам быў толькі адзін, які граў на аргане, — ён заканчваў вучэльню. Ягонае прозьвішча Сізотаў (на жаль, пазьней ён загінуў). Вось туды мы ўсе зьбіраліся глядзець, таму што гэта была сапраўдная школа. Другога месца проста не было. «Алгарытмы» і нам дапамагалі: Канавалаў першую сваю апаратуру аддаў мне. Адпаведна рос і наш узровень як выканаўцаў: калі напачатку было чатыры шэйкі, то праз месяц ужо выконвалі інструмэнтальныя кампазыцыі.

**С.С.:** Чаму толькі інструмэнтальныя?

**У.С.:** Мікрафон тады быў таксама праблемай. Кінапы ўвесь час білі токам. Ёсьць польскі фільм «Yesterday» пра станаўленьне біт-руху ў Польшчы, і там кадры, як хлопец згарае каля мікрафону — дык гэта атмасфэра нашая. У нас былі такія ж рэпэтыцыі: у лепшым выпадку піянэрскі пакой ці якінебудзь падвал.

**С.С.:** І ўжо ў 1968 годзе ў Менску ладзіцца першы біт-фэстываль?

**У.С.:** Так, арганізавалі яго менавіта ў РТІ. Па тых часах гэта была проста эпахальная падзея — 1-ы біт-фэстываль вакальна-інструмэнтальных ансамбляў Беларусі. Выглядала ўсё прыблізна так: была абавязковая праграма, якая складалася з чатырох кампазыцыяў: адна зь іх патрыятычнага характару і пажадана на беларускай мове, другая — інструмэнталка, пасьля народная песьня і чацьвертая — на выбар. Менавіта чацьвертая вырашала тут усё: у гэтай частцы кожны граў тое, што падабаецца. Амаль усе выбралі нешта з таго, што цяпер называецца клясыкай сусьветнага року. На фэст сабраўся ўвесь Менск, нехта тады яшчэ зьняў фільм. Пер-

так, чым ізноў жыць у Саветах.

* * *

*У 1946-1948 гг. Цімох Вострыкаў быў навучэнцам старэйшых клясаў Міхельсдорфскае беларускае гімназіі імя Янкі Купалы, што ў Баварыі. Гімназія прайснавала з 1945 па 1950 гады. Бадай, гэта быў ці не найбуйнейшы культурны асяродак першай паваеннай хвалі беларускае эміграцыі. Адтуль выйшла цэлая плойма асобаў, якія ў хуткім часе сталіся лідэрамі беларускага эміграцыйнага жыцьця: Запруднік, Кіпель, Урбан і інш. Па прызнаньні спадара Вострыкава, менавіта ў гімназіі ён з простага працаўніка савецкае сыстэмы ператварыўся ў сьвядомага беларуса.*

* * *

**Ц.В.:** У 1948-1949 годзе ўжо зьявілася магчымасьць выехаць у Амэрыку. Але я не дачакаўся. Нас сабралося дванаццаць аднакашнікаў, і мы ўсе разам вырашылі ехаць на заробкі ў Англію, працаваць у вугальных шахтах. У Англіі мы пачалі выпускаць газэту «Наперад!» Выпусьцілі дванаццаць нумароў: разаслалі па ўсім сьвеце. Нас сталі называць «слаўная дванаццатка». А ў 1950 годзе нашу «дванаццатку» Барыс Рагуля запрасіў ў Бэльгію ў Лювански ўнівэрсытэт, дзе я вучыўся на працягу аднаго году.

**С.К.:** Спадар Цімох, вядома, што ў 1952 годзе Вы нелегальна высадзіліся на тэрыторыі БССР. З аднаго боку, Вы зьяўляліся паўнамоцным прадстаўніком Рады БНР, зь іншага — Вас дэсантавалі з амэрыканскага самалёту.

**Ц.В.:** Тут ніякіх сакрэтаў няма. Амэрыканцы былі для нас транспартам, але ідэя была — БНР. Я зразумеў, што на Захадзе я нічога не магу зрабіць, каб прынесьці карысьць Бацькаўшчыне. Пры тым, нам было вядома, што беларусы выяжджаюць з Бацькаўшчыны, а наяжджаюць чужынцы.

Калі я наважыўся перайсьці мяжу на Ўсход самастойна, я паведаміў пра гэта Ўрбану. А ён у нейкай ступені быў зьвязаны з амэрыканскай разьведкай — праз Рагулю. Неўзабаве мне прапанавалі перакідку праз мяжу. Я даў згоду. Так на допытах у НКВД і сказаў: «Я прыехаў спэцыяльна з мэтай дапамагчы свайму народу. Я прыехаў добраахвотна».

**С.К.:** Вашую групу выкрылі за вельмі кароткі час — гэта была выпадковасьць?

**Ц.В.:** Амэрыканцы нас заслалі на зьядзеньне, каб мы прыкрылі іхнага разьведчыка-ўкраінца. Я магу прывесьці шмат фактаў: нам далі заданьне адразу па прыбыцьці на месца сыгналізаваць па радыё, нас не абучалі, і канспіратыўнай кватэры не было, і паслалі ў тое месца, дзе нас чакалі гэбісты, і паслалі чалавека, які нас прадаў — Арцюшэўскага. Яны павінны былі праверыць, а ён жа быў антыбеларус — ён сарваў у Лёндане прэзыдэнцкі сход Абрамчыка і г.д.

Мы ляцелі з Прыбалтыкі праз Беларусь, Украіну, Чэхію і ў Баварыю. Калі нас выкінулі на Беларусь, мы далі радыёсыгнал, і ўся гэбісцкая армія кінулася на нас, а ўкраінец спакойна высадзіўся, дзе трэба. Мне казалі, што праз год яго злавілі. Праўда гэта ці не, але ёсьць факт — калі мы зайшлі ў самалёт, у кабіне лётчыка ўжо хтосьці сядзеў, нас туды не дапускалі.

**С.К.:** Ці ведалі Вы пра Філістовіча?

**Ц.В.:** Усё я ведаў. Толькі ня ведаў, як яго прадалі, але цяпер я ведаю. Ведаю, бо той, хто мне даваў заданьне, накіраваў у тую кватэру, дзе злавілі Філістовіча, дзе яго прадалі...

* * *

Па арышце Цімох Вострыкаў тры гады правёў за кратамі менскае сьледчае турмы «Валадаркі». У 1955 годзе ён быў асуджаны па артыкуле 63-б КК БССР — «здрада радзіме са зброяй у руках». Наступныя дваццаць гадоў жыцьця Вострыкаў правёў у лягерох Мардовіі.

* * *

**Ц.В.:** Штурмавалі мяне пастаянна, хацелі «ссучыць» (супрацоўніцтва з адміністрацыяй)... А гэта рабілі так. Мяне кожную пятніцу выклікалі да «опэра», ён сядзеў там, куды прывозілі новы этап. Рабілі гэта для таго, каб мае хлопцы падумалі, што я з опэрам супрацоўнічаю. І вось аднаго разу я прыходжу і стукаю нагой, абутай у валёнак, у дзьверы. Опэр пытае: «Па што стучыце?» Я адказваю: «Дык стукач павінен стучаць». Хлопцы, якія бачылі, засьмяяліся. За гэта я паплаціўся месячным заробкам. Але, дзякуй Богу, на той час — 1956-1957 — у лягерох ужо не было праблемаў з харчам, хлеба было — колькі хочаш. Як у раі.

Пасьля гэтага выпадку мяне пачалі штурмаваць. Опэр па прозьвішчы Кукушкін сказаў мне: «Я зраблю зь цябе стукача». Я адказваю: «Не атрымаецца». Тады Кукушкін вельмі часта пачаў выклікаць мяне да сябе ў кабінэт: «Ну як жывеце?» — «Нармальна, добра». — «Сапраўды, добра. Вось у мяне брат маладзейшы за вас, а выглядае, як стары». — «А вы яго давайце да нас, сюды, і ён так будзе выглядаць». Тады мяне перавялі ў адмысловую зону зь вельмі добрымі ўмовамі, там нават падлога была фарбаваная. Патрымалі два месяцы і кажуць, што трэба падпісаць раскаяньне, і тады яны выпусьцяць на волю. Начальнік зоны кажа: «Даю дзевяноста дзевяць працэнтаў гарантыі». Я кажу: «Адзін працэнт больш важны». Яны бачаць, што я зьдзекваюся, і зноў у мой лягер адпраўляюць. І так мурыжылі на працягу 12 гадоў, да самага вызваленьня.

Нават прапаноўвалі такое — ты запішыся ў супрацоўнікі, але павязку насіць ня будзеш. «Ссучаныя» насілі павязкі «СВП»: «савет васьпітацыйнай прафілакцыі», ці штосьці накшталт таго. Але мы расшыфроўвалі «сука выйшла пагуляць». Адміністрацыя з такімі прапановамі да ўсіх «падкатвалася». Але ж ім было вельмі важна, каб я «ссучыўся». Бо ж у 1958 годзе выйшаў указ — больш, чым на 15 гадоў не саджаць. А тых, хто быў асуджаны на дваццацігадовыя тэрміны, паводле ўказу вызвалялі пасьля адбыцьця двух трацінаў тэрміну зьняволеньня. Але я толькі сьмяўся зь іхных «заляцаньняў».

Даходзіла да абсурду. За некалькі месяцаў да вызваленьня да мяне штонядзелі пачаў прыходзіць начальнік атрада, каб гуляць у шахматы. На судзе высьветлілася, што ён запісаў мяне ўдзельнікам «спартовага гуртка». Сьмех, ды й годзе...

* * *

Напрыканцы 50-х «рэфармаваная» сыстэма ГУЛАГу перасунула ўсе «палітычныя» зоны ў адно месца — у Мардовію. У больш чым сарака мардоўскіх лягерох сядзелі адныя палітычныя зьняволеныя. Крымінальнікі траплялі туды невялікімі партыямі і на невялікі тэрмін. Іх хавалі сярод «палітычных» ад расправы блатнога сьвету. «У Мардовіі было шмат прыстойнай публікі».

* * *

**Ц.В.:** У нас быў свой гурток па мове, па гісторыі. Мы зьбіраліся, пілі разам гарбату. У 1962 годзе заклалі ў лягеры беларускую бібліятэку. Я арганізаваў такі ланцужок, каб перадавалі ўсё гэта чытаць. На дзьве тысячы вязьняў звычайна зьбіралася шэсьцьдзесят-семдзесят беларусаў. То бок, з паходжаньня беларусаў было болей, але кшталту тых, якія кажуць альбо «я тоже белорус», альбо «jestem białorusinem», а нам трэба было казаць «я таксама беларус».

**С.К.:** Вы прысьпелі за калючым дротам як менш тры эпохі: канец сталінскай, хрушчоўскую «адлігу» і пачатак брэжнеўскага «разьвітога сацыялізму». Ці можна вызначыць зьмены, якія адбываліся ў лягеры са зьменамі ў СССР?

**Ц.В.:** Не. У лягерох і турмах працавалі тыя самыя людзі, што і пры Сталіне. З той самай сталінскай загартоўкай. Мы дагэтуль, на волі, ніяк ня можам стаць свабоднымі, у нас рабы сядзяць у душы. А там, за калючкамі, магло быць толькі пасьлабленьне РЭЖЫМУ...

* * *

Сёньня Цімох Вострыкаў — гомельскі пэнсіянэр. Ён перакананы, што КГБ дагэтуль неадрыўна сочыць за ягоным жыцьцём. Ці існуюць аб'ектыўныя падставы для такога меркаваньня?..

**Ц.В.:** Усе акалічнасьці й нюансы, якія датычаць справы пачатку 50-х гадоў, мною занатаваныя і пакладзеныя ў надзейнае месца. Сёньня яшчэ не прыйшоў час апублікоўваць гэтыя сьведчаньні.

Калі прыйдзе час?..

**Радыйны праект АНГ**

З 1 сакавіка ў эфірнай прасторы Беларускай рэдакцыі Польскага Радыё-5 выходзіць праграма «Бумэранг». Гэта аўтарская праграма Севярына Квяткоўскага, якая рыхтуецца паводле матэрыялаў і пры ўдзеле Архіву Найноўшае Гісторыі. «Бумэранг» — унікальная магчымасьць пачуць галасы сьведкаў і ўдзельнікаў падзеяў нядаўняга мінулага несавецкае Беларусі. Мінулага, якое мы называем Найноўшым часам — часам нашага жыцьця і жыцьця нашых бацькоў.

Слухайце «Бумэранг» штонядзелі ў 16-30 (41,27 м, 7270 кГц; 49,22 м, 6095 кГц).

шае месца занялі «Алгарытмы», другое — «Дойліды». Між іншым, чым яны адрозьніваліся: «Алгарытмы» — гэта канкрэтна інструмэнтальны склад, а «Дойліды» — проста выдатны вакальны гурт.

Фэст прайшоў удала, прычым улады паставіліся ляяльна. Крыху дзіўна, бо музыка ўсё ж з Захаду.

**С.С.:** Ці былі ў Вас кантакты з замежнымі музыкамі?

**У.С.:** Якраз у канцы 60-х тут зьявіліся «Чырвоныя гітары» і «Трубадуры» — жывая музыка, якая прыехала да нас з Захаду — з Польшчы. Апаратура ў іх была проста фантастычная — тады ж адбываліся і першыя кантакты з замежнікамі. Мы куплялі ў іх гітары за нейкія вар'яцкія па тым часе грошы — 300 рублёў. «Чырвоныя гітары» і «Трубадуры» сьпявалі па-польску, на іхныя канцэрты людзі ламіліся, бо яны былі як з казкі. Абавязковымі былі ў іх рэпэртуары тры-чатыры заходнія хіты, якія, дарэчы, тут усе ведалі. Проста ў іх быў большы інфармацыйны доступ да заходняй музыкі, у нас жалезная заслона стварала ілюзію недасягальнасьці. Але мы гэтаксама «здымалі» «Beatles»: калі выйшаў «Сэржант Пэпэр», то гурт «2+2», у якім працаваў Гена Старыкаў, цалкам «зьняў» гэты новы альбом. Сьпявалі хлопцы чыста, імітацыя была поўная. Гэта значыць, што праз год мы «здымалі» ўжо фірмовую музыку.

**С.С.:** Ці пасьля фэсту рок-рух актывізаваўся?

**У.С.:** Так. Зьявілася шмат камандаў, якія гралі падобную музыку, але пра канцэртную дзейнасьць размоваў не было: адзіная магчымасьць выступіць перад публікай — гэта сыграць на танцах. Часам танцы праходзілі ў цэнтры — у РТІ, часам на т.зв. «цагляных заводах» — на пэрыфэрыі Менску. Але студэнты баяліся туды езьдзіць — зразумела, блатныя раёны, а там — бойкі з чужымі. Праўда, сур'ёзных «кровапраліцьцяў» я там ня бачыў, таму ў хуткім часе ўсе пачалі езьдзіць на гэтыя танцы — увесь самапальны рок-н-рол перайшоў на гэтыя «цагляныя заводы». Зьявілася процьма гуртоў, у кожнага зь іх былі свае прыхільнікі, як гэта цяпер называецца — фэны, яны ведалі, дзе будуць выступаць гурты, і ехалі туды.

**С.С.:** Адразу пасьля 1-га біт-фэстывалю ўтварыўся гурт «Пані Браці»...

**У.С.:** Яны кардынальна адрозьніваліся ад іншых — гэта была першая спроба стварыць прафэсійную аўтарскую музыку: ні «Песьняроў», ні «Лявонаў» тады яшчэ не было. У «Пані...» быў апарат «Рыгін-60» — гэта ўжо магчымасьць сьпяваць, зьявілася рэйвэра — першы які-ніякі рыштунак, што здабываўся крывёю і потам, за яго пераплочвалі дзеля добрага гучаньня. Гэтая каманда таксама выступала на танцах, таксама «здымала» новыя альбомы з Захаду і адразу выконвалі іх на танцах — нашая прапаганда жыла толькі такім чынам.



**С.С.:** А калі Вы прафэсійна пачалі займацца музыкай?

**У.С.:** Паралельна зь існаваньнем «Пані Браці»: я тады мала таго, што паспрабаваў пісаць сваю музыку, але й заняўся канцэртнай дзейнасьцю — ня іграць на танцах, а выступаць з канцэртамі. Я сабраў гурт з хлопцаў, якія вучыліся ў музычнай вучэльні, і назваў яго «Арганаўты». Мы выконвалі арт-рок. У Расеі на той час аналягічных нашаму калектываў не было, мы ў Саюзе былі ці ня першымі. Такое ў годзе 76-м пачалі рабіць расейскія «Цветы». Пра нас жа там наогул ніхто ня ведаў.

Выступаць «Арганаўтам» дазвалялі па ўрачыстасьцях — першага траўня, дзявятага траўня — нам давалі выканаць тры-чатыры песьні, танцы нам наогул не дазвалялі граць. Наш гурт лічыўся замацаваным за БДУ, а гэта, у адрозьненьне ад РТІ, ня проста кансэрватыўная ВНУ — там паўсюдна адчуваўся пільны нагляд з боку ўладаў.

У 1971 годзе быў 2-гі біт-фэстываль, дзе нам аддалі першае месца. Была нейкая прэса, нас запрашалі на тэлевізію. У нас быццам зьявілася магчымасьць рабіць сваю музыку, выступаць з канцэртамі. Але гэта былі 3-4 канцэрты, пасьля якіх зноў — забарона. У БДУ мне сказалі, што калі ня скончу з музыкай, то мяне проста выкінуць; Уладзімера Кандрусевіча, вакаліста і клявішніка з «Пані Браці», пасьля фэсту выгналі з кансэрваторыі. Прэсынг быў моцны. У Эдзіка з нашага гурта былі даўгія валасы, і парторг на поўным сур'ёзе мне казаў: «Ты паглядзі — у яго ж блохі скочуць», — а ў самога лінзы ў акулярах сантымэтровыя... Але гэта няважна — трэба было гэтае трызьненьне ўспрымаць сур'ёзна.

Таксама цікавае пытаньне фінансавае: у гэтым пляне была поўная безамбіцыйнасьць. Гралі мы бясплатна, часам на танцах атрымлівалі за месяц трыццаць рублёў. Крыніцай прыбытку для ўсіх музыкаў былі вясельлі: зараблялі там 25 рублёў на ўвесь склад, а грошы ішлі на апаратуру. Альбо такі выпадак: трэба было выступаць на нейкай пляцоўцы і туды трэба было везьці сваю апаратуру, яна цяжкая, і яе шмат. Тады прыходзяць хлопцы, усю апаратуру бяруць у рукі ды йдуць па праспэкце, нясуць усё гэта, бо замовіць аўтобус каштавала пяць рублёў, якіх, натуральна, не было. Для нас не існавала перашкодаў: няма аўтобуса — панясем у руках.

Паўсюдна адключалі электрычнасьць: на танцах пяюць «Rolling Stones», стаіць роў — моладзь у захапленьні, адміністрацыя ў шоку. Час бітнікаў, хіпі для ўладаў, для тых, хто ў гальштуках — гэта было проста дзікунствам.

Працавалі мы штодзённа па 4-5 гадзінаў, ня трэба было ставіць голас — падчас такіх рэпэтыцыяў ён ставіўся сам. Перад тым, як стаць пераможцамі біт-фэстывалю, «Арганаўты» рэпэтавалі... на дрэвах. У парку Грыцаўца, што ў Менску, бегалі вялікія сабакі, таму мы залазілі на дрэвы і сьпявалі. Ва ўнівэрсытэце сьпявалі ў кулуарах, усё жыцьцё ішло з музыкай. Калі напачатку рок-н-рольным быў толькі РТІ, дык пасьля 69-га так было ва ўсіх інстытутах, ва ўсіх школах.

Аднойчы нас хацелі адправіць у Маскву на праграму «Алло! Мы ищем таланты» — гэтым займаўся Бахціяр Бахціяраў. Я ўжо ня памятаю, што перашкодзіла, але, у прынцыпе, калі б мы туды трапілі, то былі б мацнейшымі за іншых, прынамсі, за маскоўскія гурты: там былі толькі расейскія варыянты «Чырвоных гітар». У нас была свая музыка. Я зараз перапісаў праграму старых песень, дык там ёсьць кампазыцыя У.Кандрусевіча і У.Угольніка «Солнце сквозь листву» — суперпапулярная, але як яна такой стала: нехта пачуў песьню, падабраў на гітары, а пасьля яе сьпявае ўвесь Менск. Пра тое, што ў Маскве й гэтага не было, я ўскосна мяркую з такога выпадку: на 50-годзьдзе нашага ўнівэрсытэту «Арганаўты» з канцэртамі паехалі ў сталіцу СССР, зрабілі сапраўдны фурор. Нас абступілі замежныя студэнты і пачалі казаць: «Мы не ўяўлялі, што тут могуць выконваць такую музыку».

**С.С.:** Ці былі ў Вашым рэпэртуары беларускамоўныя кампазыцыі?

**У.С.:** У «Арганаўтаў» было некалькі народных песень ў рокавай апрацоўцы, мы іх выконвалі ў Маскве. Пазьней на тэлевізіі я запісваў кампазыцыі на раньнія вершы Янкі Купалы. Тады ў Яўгена Канавалава бацька працаваў у ЦК, на маю просьбу ён прыносіў раньнія зборнікі Купалы. Пасьля ўжо «Песьняры» зрабілі цэлую праграму на гэтым матэрыяле. Наогул, калі нехта й сьпяваў песьні па-беларуску — гэта «Пані Браці», але гэта былі народныя песьні. Аўтарскія тэксты я ўпершыню пачуў ад «Bondy».

**С.С.:** Што далей сталася з «Арганаўтамі»?

**У.С.:** Наш склад быў канцэртным. Мы любілі «Bee Gees», уплывы іх у нашай музыцы ёсьць, гэта быў арт-рок з элемэнтамі free, г.зн. былі струнныя партыі. Валодзя Кандрусевіч, які прыйшоў да нас, любіў «Deep Purple» і таксама імправізаваў у гэтым напрамку. Тое ж было і з Угольнікам — кожны меў права граць тое, што хацеў. Мы часам зьбіраліся, нешта рабілі і разыходзіліся. Так, у кансэрваторыі ладзілі вечары, але сьвядома тэматычныя, напрыклад, праграму сусьветнай музыкі на тры гадзіны. Адно аддзяленьне граў я, другое — Вольга Аліпава і яшчэ нехта. Такія тэматычныя танцы, бо канцэрты нам не давалі.

Я стаў граць зь іншымі гуртамі, прыходзіў на танцы, нейкія песьні мае асобныя рабілі. У мяне была спроба стварыць акустычны варыянт сваёй праграмы, пісаў нейкія баляды, у якіх былі сур'ёзныя тэксты. Вельмі папулярная мая баляда «Старуха и собака». І нават гэта ўлады лічылі за крымінал. Памятаю, нашу музыку яны называлі «пэсымізмам масаў».

Пасьля ўсе музыкі гралі на вясельлях, большасьць пайшла ў рэстарацыі. Нехта працягваў яшчэ 2-3 гады, пазьней і яны скончылі граць музыку.

*На здымках: 1. «Вясёлыя лісы», 1968. Гітара — Уладзімер Пад'ельскі; гітара — Уладзімер Сьпірыдовіч; бас-гітара — Андрэй Сьвятаславаў; бубны — Сяргей Давыткаў; 2. 2-і фэстываль біт-ансамбляў у Менску, красавік 1971. 1-е месца — «Арганаўты».*

# СТРАЧАНАЯ СПАДЧЫНА

*Зборнік артыкулаў «Страчаная спадчына» пад рэдакцыяй Тамары Габрусь — першае ў Беларусі выданьне, цалкам прысьвечанае менавіта зьнішчаным помнікам. Імёны герастратаў не называюцца, але зразумела, што ўсе яны — прадстаўнікі расейскіх і бальшавіцкіх акупацыйных уладаў, якія панавалі ў Беларусі на працягу двух апошніх стагодзьдзяў.*

*Яшчэ раней да ідэі «Белае кнігі культуры» падступаліся многія гісторыкі, архітэктары, мастацтвазнаўцы. Пра гэта пісалі ў сваіх кнігах і артыкулах Гліньнік, Дзянісаў, Калнін, Пазьняк, Чарняўскі. Напрыканцы 80-х у інстытуце «Белрэстаўрацыя» высьпеў праект мартыралёгу панішчаных здабыткаў архітэктуры. Мартыралёг помнікаў прыроўніваўся тады да мартыралёгу людзкіх ахвяраў. Але суд над камунізмам не надышоў. Суд быў адкладзены на будучыню. Перапіс злачынстваў працягваецца і сёньня. Пра што сьведчыць і новая кніга «Страчаная спадчына».*

*У кнізе, на жаль, няма шмат якіх, на маю думку, абавязковых для гэтага выданьня помнікаў. Напрыклад, няма сабора й кляштара кармэлітаў у Бялынічах альбо сабора Сьвятога Пятра ў Маляцічах. Што праўда, сабраць у адной кнізе ўсё, што зьнішчана за апошнія 200 гадоў, нерэальна. Ужо ў прадмове ўкладальніца Тамара Габрусь піша: «Безь перабольшаньня — пералічыць усе ахвяры проста немагчыма. Таму намі прыведзеныя найбольш характэрныя, калі можна гэтак выказаца, «жыцці» помнікаў сакральнага дойлідзтва, «закатаваных» за апошнія два стагодзьдзі».*

*Галоўны недахоп выданьня — брак дакумэнтальных зьвестак пра даты й абставіны зьнішчэньня. За апошнія гады назапашана дастаткова матэрыялаў, каб назваць многіх «герастратаў» пайменна. Намёкі, згадкі, недагаворкі зьніжаюць дакумэнталізм выданьня і ягоную навуковасьць. Каб гэткае зьявілася дзесяць гадоў таму, ніхто не зьвярнуў бы ўвагі. Менавіта тады й была напісаная большасьць тых артыкулаў, што ўвайшлі ў зборнік. Але навука не стаяла на месцы. Ужо было даведзена археолягамі й архівістамі, напрыклад, што капліца ў Кухцічах — адзін з найстарэйшых помнікаў Беларусі, кальвінскі збор, пабудаваны ў 60-70-я гады XVI ст. Але ў артыкуле паважанага сп. Кулагіна ён значыцца пад XIX ст. Гэткай састарэлай фактуры ў кнізе шмат. Як і клясычных сэнтэнцыяў пра «буржуазна-памешчыцкі лад» і «контаррэвалюцыянэраў».*

*Кніга шчодра ілюстраваная, часьцяком рэдкімі й малавядомымі здымкамі. Напрыклад, здымкам касьцёла кармэлітаў у Горадні, альбо інтэр'ернымі здымкамі касьцёла ў Цімкавічах. У гэтым сэнсе таксама цікавыя здымкі да артыкулаў сп. Чантурыя, зробленыя ў 70-я гады...*

*«Страчаная спадчына» сама стала цікавым помнікам эвалюцыі беларускай горадабудаўнічай і дасьледчыцкай думкі. Некаторыя ідэі, выказаныя дасьледчыкамі шмат гадоў таму, і да сёньня актуальныя. Напрыклад, Юры Чантурыя ў сваіх даўніх артыкулах пісаў, што нам не аднавіць сваёй гістарычнай прасторы без карэкцыяў усяго ляндшафту й нават тапанімікі.*

*Першае пытаньне пасьля знаёмства з кнігай «Страчаная спадчына» — а што далей? Мы апісваем разбураныя помнікі адно для гісторыі ці таксама і з думкаю пра іх будучае аднаўленьне? Тады — аднаўленьне ў якіх аб'ёмах і чаго — у першую чаргу?*

*На гэтыя пытаньні на старонках «НН» адказваюць найбольш дасьведчаныя ў справе помнікаў людзі.*


Менск. Верхні Горад. Рэканструкцыя У. Сташчанка

## НАРМАЛЬНАЯ СТАЛІЦА



**Адам Глёбус, мастак і літаратар:**

Аднаўленьне архітэктурных помнікаў у Беларусі — справа цяжкая, я ў ёй удзельнічаў і ведаю, наколькі яна цяжкая. І разам з тым я лічу, што гэта справа неабходная. Але калі вярнуцца да пытаньня, што неабходна аднавіць — то гэта ўжо канцэптуальнае пытаньне. Канцэптуальным павінен быць і адказ. Я вось сяджу ў Менску, гляджу на гэты вялікі горад і разумею, што гэта не зусім беларуская сталіца. І каб гэтую сытуацыю зьмяніць, я б перанес сталіцу зь Менску ў Навагрудак. Адпаведна я б правёў рэстаўрацыю і рэканструкцыю навагрудзкага замку. Гэта быў бы сымбаль нашай дзяржавы, гэта была б наша сталіца. Не адміністрацыйная, як Менск (ён толькі адміністрацыйная сталіца), не духоўная, як Вільня, якая ўжо ня мае да нашае дзяржавы амаль што ніякага дачыненьня, а гэта была б наша нармальная невялікая эўрапейская сталіца нармальнай дзяржавы.

***

*Наваградак, пра які кажа Адам Глёбус, сапраўды зьбярогся амаль цалкам. І пераносы сталіцаў — справа ня новая ў сусьветнай практыцы. Менавіта дзеля сьцьвярджэньня ідэалаў незалежнасьці свае сталіцы вынесьлі з былых каляніяльных цэнтраў ЗША, Канада, Аўстралія, Новая Зэляндыя, Бразылія, Індыя, урэшце Казахстан. У Эўропе зьмянілі свае сталіцы Галяндыя й Нямеччына. Сам факт пераносу сталіцы прыводзіў і будзе прыводзіць да радыкальных зьменаў культурнае й палітычнае сьведамасьці.*

*Што да ідэі поўнага аднаўленьня, дык у нас яна нарадзілася ў канцы 80-х. Тады пісалі, што адна з прычынаў заняпаду нацыянальнае сьведамасьці палягае ў адсутнасьці гістарычнага атачэньня, помнікаў былое, нерасейскае, несавецкае культуры. Маўляў, акупанты наўмысна зьнішчалі нашую спадчыну, каб пазбавіць нас памяці і волі. А таму зьвышідэяй бачылася поўнае аднаўленьне ўсіх помнікаў, якія непазнавальна зьменяць беларускі краявід і беларускую сьведамасьць. Такім чынам, кадастр страчанага набывае зусім рэальную, практычную аснову. У першую чаргу гэта тычылася Менску. Уяўлялася: сталіца дасьць прыклад, а там, на месцах, падхопяць.*

*З 1986 па 1992 год плянавалася абдудаваць наноў увесь менскі Верхні Горад, нават ратушу, зьнесеную за царом Мікалаем І, пра што паведамляла прэса. Неўзабаве ў прэсе загучаў і «голас народа»: «Пэўна тыя, каму прыйшло ў галаву аднаўляць касьцёлы, жывуць у добрых кватэрах. А ці да помнікаў тым, хто гібее ў камуналках ды інтэрнатах?» «Голас» быў пачуты, праца пакрысе згарнулася. Пытаньне: аднаўляць помнікі ці не? — яшчэ вісіць у менскім паветры.*

## ТАТАЛЬНАЕ АДНАЎЛЕНЬНЕ — ДЗІЦЯЧАЯ ХВАРОБА



**Валянцін Калнін, старэйшы ў Беларусі рэстаўратар-дасьледчык:**

Выказваньне аб тым, што трэба нанова аднаўляць страчаныя помнікі — гэта сучасная тэндэнцыя і яна належыць да дзіцячай хваробы рэстаўрацыі. Такую хваробу заходнія краіны перажылі яшчэ два стагодзьдзі таму. Там таксама быў рэстаўрацыйны сьверб — аднавіць усё, як выглядала. Але там гэтая практыка ўжо сышла. Беларусь жа яшчэ на гэтую хваробу не перахварэла. Два дні назад споўнілася толькі трыццаць гадоў менавіта беларускай рэстаўрацыі. Таму мы яшчэ знаходзімся ў дзіцячым стане разьвіцьця. Тым больш, што гэты стан быў перабіты перабудовай, калі раскідаліся рэстаўрацыйныя сілы і г.д.

Аўтары новай кнігі — чыстыя тэарэтыкі па помніках, і гэтая тэарэтычная тэндэнцыя, увогуле няшкодная, ужо пранікае ў практычную рэстаўрацыю, на жывым помніку аднаўляюцца страчаныя і не зусім пэўныя рэчы. Увогуле такая практыка мае месца, але яна павінна быць вельмі ўзважанай, напрыклад, як гэта рабілася ў Варшаве — пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны было адноўленае Старое места. Там гэта было пытаньне нацыянальнага прэстыжу, трываласьці народу. Магчыма, такая практыка магла б быць і ў нас у Беларусі. Са свайго погляду я б дапускаў такое аднаўленьне толькі ў Віцебску, бо горад пацярпеў у часе вайны і яшчэ больш пасьля вайны, калі пабітыя, але яшчэ цэлыя помнікі разьбіралі. Гэты горад страціў вельмі многа...

***

*Спадар Калнін мае рацыю, калі кажа, што аднаўленьне ў правінцыі — раскоша. Але мне цяжка зьмірыцца з думкай, што аднаўленьне сабораў у Беразьвеччы ці Маляцічах застанецца толькі летуценьнем... З другога боку, калі ўявіць, што нават у Віцебску будуць наноў пастаўленыя копіі тых 28 бажніцаў і соцень дамоў, што зьнішчылі камуністы, — каму яны спатрэбіцца ў наступным стагодзьдзі?*

*Калі гаворка йдзе пра помнікі, у беларуса ўзьнікае банальны асацыятыўны шэраг: бажніца, музэй, канцэртная заля, ну хіба яшчэ бібліятэка. Навошта ж існуюць самі помнікі, дзеля чаго могуць спатрэбіцца руіны замкаў, закінутыя палацы, тысячы проста старых лядашчых дамкоў? — гэтае пытаньне па-ранейшаму адкрытае. Тое, што дзесяць гадоў таму здавалася натуральным, сёньня часьцяком выглядае абсурдам. У адным з артыкулаў «Страчаная спадчына» Юры Чантурыя піша:*

*«Адной з задач далейшай рэканструкцыі горада павінна стаць узнаўленьне страчаных культавых помнікаў, якія вызначалі ўнікальнасьць Чачэрска для беларускай горадабудаўнічай культуры, аднаўленьне іншых гістарычных аб'ектаў...»*

*Дзеля каго аднаўляць, калі з забруджанага радыяцыяй Чачэрска варта адсяліць самых людзей? Здараюцца парадоксы і іншага кшталту.*

*У Полацку замест таго, каб адбудаваць з руінаў гістарычныя касьцёлы, каталікі перабудавалі пад касьцёл кінатэатар. Калі вернікам ня так істотная традыцыя, як сам культ, дык для каго аднаўляць бажніцы? Хіба што для прыстасаваньня іх пад кінатэатры?..*


Варшава, 1945. Вуліца Мядовая

# РАЗБУРЭНЬНЕ З НАСТУПНЫМ АДНАЎЛЕНЬНЕМ



**Уладзімер Дзянісаў, дасьледчык архітэктуры Менску, гісторык:**

У справе аднаўленьня помнікаў архітэктуры ёсьць вялікі досьвед у нашых суседзяў, якія таксама пацярпелі ў Першую і Другую сусьветныя войны. Самы клясычны прыклад — Польшча, дзе былі адноўленыя нават не асобныя помнікі, а цэлыя страчаныя горадабудаўнічыя комплексы. Другі клясычны прыклад — Нямеччына, дзе таксама шмат выдатных помнікаў было адноўлена. І яшчэ адзін прыклад — Літва, дастаткова назваць славуты замак у Троках або ў Вільні, дзе цяпер аднаўляецца калясальны горадабудаўнічы комплекс.

Што да Беларусі, дык, на вялікі жаль, сама мэтодыка сучаснай рэстаўрацыі ў нас накіраваная не на захаваньне помнікаў, а менавіта на разбурэньне з наступным іх аднаўленьнем. Што, дарэчы, прапануецца замацаваць і ў нашым заканадаўстве аб ахове гістарычнай і культурнай спадчыны. У нас падчас рэстаўрацыі можна зруйнаваць помнік, не пакінуўшы ад яго ні цаглінкі, потым аднавіць яго ў новых матэрыялах, як мяркуе цяпер старшыня камітэту па ахове гісторыка-культурнай спадчыны спадар Бубноўскі.

Але аднаўленьне страчаных помнікаў у Беларусі павінна адбывацца не ў вялікіх памерах. Найперш трэба аднаўляць тыя, якія маюць вялікае гістарычнае, мэмарыяльнае, мастацкае значэньне. У Менску трэба было б найперш аднавіць ансамбаль Верхняга Гораду. Дарэчы, большасьць аўтэнтычных помнікаў там ужо зараз зьнішчана і на іх месцы збудаваныя звычайныя муляжы, якія вельмі цяжка назваць помнікамі гісторыі і архітэктуры. Найперш трэба было б аднавіць будынак Менскай ратушы. Гэта сымбаль горада, сымбаль гарадзкога самакіраваньня, магдэбурскага права. Канечне, трэба аднавіць будынак гарадзкога тэатра, які быў зьнішчаны ў 1984 годзе партыйнымі ўладамі. Неабходна таксама аднавіць унікальны помнік рэнэсансу — Менскую Сьвятадухаўскую царкву.

***

*Уладзімер Дзянісаў кажа пра спробы аднаўленьня фрагмэнтаў менскага гістарычнага асяродзьдзя, якія спарадзілі крыху аптымізму, але ненадоўга. Па-першае, аказалася, што для маштабнае аднаўленчае працы ў Беларусі бракуе кадраў. Традыцыйная савецкая халтура надта ж кідаецца ў вочы на «гістарычных аб'ектах». Па-другое, паўбэтонныя, крытыя дахоўкай «помнікі» ня выклікалі жаданага піетэту. Акцыянэрнае таварыства «Стары Менск», якое зараз шчыруе на Верхнім Горадзе, здолела за апошнія гады зьнішчыць аўтэнтычных элемэнтаў архітэктуры больш, чым было зьнішчана за савецкім часам. Прыклад сталіцы фатальным чынам адбіўся на правінцыі: сотні помнікаў бескантрольна «прыхарошваюцца». Як, напрыклад, у Віцебску, дзе дашчэнту зьнішчылі рэшткі царквы Дабравешчаньня, каб пабудаваць сумнеўны муляж.*

*Парадокс, але менавіта з крахам СССР і КПСС у Беларусі жалобныя мартыралёгі, якія гэтак і засталіся недапісанымі, страцілі сваю актуальнасьць. Як грыбы пасьля дажджу пачалі аднаўляцца сотні бажніцаў. Аднаўляцца тымі ж па сутнасьці ўладамі, якія раней гэтыя бажніцы руйнавалі. Бо суд так і не адбыўся...*



**Вострая Брама**

*беларускі культурны кантэкст XX ст.*

Супольны праект «Нашай Нівы» і беларускай рэдакцыі Радыё Свабода: рэпартажы, рэфлексіі, гутаркі — кожную нядзелю на зьмененых хвалях Свабоды. Кожную сераду — паўтор перадачы.

RADIO FREE EUROPE
RADIO LIBERTY

Кожную нядзелю на хвалях Радыё Свабода: Новыя Хвалі, Пастаянны Час, Нязьменная Свабода (ад 26 кастрычніка 1997)

| Час | K/Hz | Хвалі |
|---|---|---|
| 18.00 - 19.30 | 6000, 6170 | 49 |
| | 7155, 7295 | 41 |
| | 3695 | 75 |
| 22.00 - 23.30 | 6010, 6025, | |
| | 6095, 6170, | 49 |
| | 7155 | 41 |
| | 9750 | 31 |
| 06.00 - 07.00 | 5995 | 49 |
| | 7295, 7275 | 41 |
| | 9750 | 31 |
| | 3980 | 75 |

Паштовы адрас: 220005, Менск-5, п/с 111 У 22.00 беларускую праграму можна слухаць у Інтэрнэце: http:/www.rferl.org/bd/be/index.html

*Заставайцеся са Свабодай!*

# ДЭКАРАЦЫІ НЯ МАЮЦЬ АЎРЫ



**Уладзімер Арлоў, пісьменьнік і гісторык:**

Як з разьбітага збану выцякае віно, так і з разбуранага архітэктурнага помніка выцякае яго ная аўра, тая энэргія папярэдніх пакаленьняў, якая ёсьць аб'ектыўнай рэальнасьцю. Калі помнік зруйнаваны дарэшты, дарэшты зьнікае і ягоная аўра. Збудаваньне, што паўстане на гэтым месцы, якой бы высакапрафэсійнай ні была праца рэстаўратараў, гэта, на маю думку, усяго толькі дэкарацыі. Гэта вельмі добра адчуваецца ў зруйнаваным і адбудаваным нанова Варшаўскім Старым месьце. Прысутнасьць гісторыі ў Варшаве значна больш адчуваецца дзе-небудзь на Маршалкоўскай. І рэч ня ў тым, што я ведаю пра дэкарацыйнасьць Старога места, мой малодшы сын Багдан пра гэта, напрыклад, ня ведаў, але, хадзячы па пляцах і вуліцах Старога места ў Варшаве, у адрозьненьне ад аўтэнтычнага Старога места ў Празе Чэскай, ён заставаўся абыякавым.

***

*Вядома, ніякая копія не заменіць нам сапраўднае сьвятыні. Але як мы і нашыя дзеці будзем жыць сярод сьвятыняў Зла? Шмат хто кажа пра цалкам адноўленую з руін пасьляваенную старую Варшаву. Але ніхто ня згадвае, што задоўга да Другой сусьветнай вайны палякі зьнішчылі сымбаль расейшчыны — вялізны сабор у цэнтры Варшавы. Справа нават ня ў тым, наколькі магчымае нашае поўнае адраджэньне, а ў тым, што яно немагчымае ад пачатку без вынішчэньня сьлядоў акупацыі.*

*Апытаньне спэцыялістаў у рэстаўрацыі, вельмі розных паводле поглядаў, характараў і свайго кола людзей, паказала шмат супольнага паміж імі. Па-першае, ніхто зь іх не схіляецца сёньня да татальнага аднаўленьня страчанае спадчыны. Па-другое, яны ўсе так ці інакш кажуць пра выніваньне. Перад пастаўленым пытаньнем — аднаўляць ці не аднаўляць усё зруйнаванае — зьявілася яшчэ адно неадказанае пытаньне — пра папярэдні знос.*

*Ці магчыма паверыць у шчырасьць хрысьціянскае бажніцы, якая будуецца ўчорашнімі сатаністамі на пляцы, што носіць імя антыхрыста?..*

**Сяргей Харэўскі**

# ПАЧАЦЬ ЗЬ ВЯРТАНЬНЯ ЭЎРАПЕЙСКАГА ВЫГЛЯДУ



**Зянон Пазьняк, археоляг і мастацтвазнаўца:**

Рэстаўрацыя помнікаў архітэктуры мае клясычныя падыходы і агульныя правілы. Напрыклад, аўтэнтычнасьць помніка і дакумэнтальнасьць асновы. Калі ёсьць хоць мінімальная дакумэнтальная аснова, г.зн. падмуркі, сьцены, то рэканструкцыя апраўданая. Але небясспрэчная. Залежыць ад таго, які быў разбураны помнік. І залежыць ад сытуацыі ў краіне. Калі ў краіне ёсьць безьліч архітэктурных помнікаў, як, скажам, замкаў у Францыі, то можна яшчэ выбіраць: ці рэканструкцыя, ці кансэрвацыя. Але ў Беларусі безьліч здабыткаў архітэктуры былі сьвядома і спэцыяльна зьнішчаныя расейцамі з мэтай русіфікацыі, таму ў нас поўная рэканструкцыя, нават без дакумэнтальнай асновы, павінна лічыцца цалкам апраўданым мэтадам. У 60-м годзе, напрыклад, бальшавікі ўзарвалі ў Менску храм, дзе адбылася найвялікшая падзея беларускага адраджэньня 20-га стагодзьдзя — аб'яўленьне ў 42-м годзе Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. На гэтым месцы пабудавалі гмах рэспубліканскай пракуратуры. Дык што мы павінны будзем рабіць? Глядзець на пракуратуру? Не. Мы ўзарвем яе гэтак жа, як яны ў 60-м узарвалі храм і адбудуем гэты храм. Ім было трэба ўзрываць, дык вось нам трэба будзе адбудаваць.

Я лічу, што гэтая канцэпцыя цалкам апраўданая менавіта для Беларусі. У Беларусі такіх помнікаў можна было б узнавіць сотні. Але ў першую чаргу гэта Наваградак — як старажытную сталіцу, зрабіць рэканструкцыю замка, тым больш што ёсьць дакумэнтальная аснова, потым Гарадзенскі фарны касьцёл Вітаўта, потым Віцебскую царкву Дабравешчаньня, потым Пінскі езуіцкі касьцёл. У Менску: Сьвятадухаўскую царкву на Пляцы Волі, Менскую ратушу, Менскую гарадзкую вежу, Дамініканскі касьцёл, цэнтар Віцебска і г.д. І ўвогуле, калі мы хочам і калі мы будзем мець такую магчымасьць — ісьці ў Эўропу, то трэба пачынаць з прывядзеньня ў парадак нашага дому, нашага выгляду, нашай культуры і ў першую чаргу — зь вяртаньня нашаму краю эўрапейскага выгляду.

***

*Дзеля таго, каб аднавіць архітэктурны шэдэўр як частку ўласнае духоўнасьці, трэба перадусім парваць са спадчынай тых самых акупантаў-вандалаў. Помнікі ахвяраў і помнікі катаў ня могуць стаяць разам. Колькі ні распавядай пра Наваградак, а пашаны да спадчыны ня выклічаш, пакуль у самым цэнтры стаіць ці ня самы сьмешны помнік Леніну, густа пафарбаваны бронзай.*

*Маральнага ачышчэньня без ачышчэньня краявіду быць ня можа, як ня можа быць рыбы ў каналізацыі.*



Варшава сёньня, вуліца Мядовая

# ЭПІКОН

## Валадзейка Болка

### ЯНКА

*Казалі мне, што я*
*страшэнны нацыянальны пень...*
*Віктар Шалкевіч*

У характарыстыцы Янкі было запісана, што ён «сацыяльна небясьпечны нацыянальны шавініст... вёў антыдзяржаўную прапаганду... у культурна-масавым жыцьці калектыва ўдзелу не прымаў...» Вось такімі якасьцямі валодаў пяцігадовы хлопец Янка. А ўсё пачалося з таго, што ня мог ён вымавіць цьвёрды гук «л». І аднойчы выхавацелі ў ціхую гадзіну вырашылі яго перавучыць.

— Скажы «экалогія», — дапякала выхавацелька.

— Экалёгія, — чулася ў адказ.

— Хоць кол на галаве чашы! Што з табой рабіць?

— А нічога не рабіце, — адказваў Янка. — Прырода патрабуе: не магу вымавіць, і ўсё тут.

— Во, разумнік знайшоўся. Хто ж цябе так размаўляць навучыў?

— Я ж кажу: ад прыроды ўсё.

— Усе дзеці як дзеці — з цацкамі гуляюць. А гэты — у вугал заб'ецца і ўсё кнігі і газэты чытае... Можа ты яшчэ на кампутары займаесься?

— І на кампутары... і кнігі і газэты чытаю, — ганарліва адказваў Янка.

— Ты што? Перадражніваеш?! Адказвай!.. Маўчыш! А што за мітынг ты сабраў сёньня ў туалеце? Да чаго падбухторваў? Што вырашалі?

Янка адно махнуў рукой:

— Ды несьвядомыя яны, палітычна неграматныя. Сацыял ад нацыянал-дэмакратаў адрозьніць ня могуць. Зь імі рэвалюцыі ня зробіш.

— Слухай, Ленін, каб я больш ня чула тваёй прапаганды! І дэсэрту на полудзень ты не атрымаеш.

— Вы ня маеце на тое правоў! — запратэставаў Янка.

— Маю! — адрэзала выхавацелька. — Ідзі з маіх вачэй.

У адказ Янка пабег у спальны пакой і пачаў крычаць ва ўвесь голас:

— Падымайцеся ўсе! Слухайце! Грубае парушэньне правоў дзіцяці! Дзетсад ператвараецца ў прытулак таталітарызму! Аб'явім ноту пратэсту адміністрацыйнай кагорце! Патрабую выдачы марожанага і павелічэньня яго порцыі! Падтрымайце абвяшчэньне Незалежнае Дзіцячае Рэспублікі!

Але бунту не атрымалася. Пэдагогі разагналі дзяцей па ложках. Падбухторшчыка схапілі, і кіраўніцтва прыняло рашэньне аб выключэньні Янкі зь дзіцячага саду і «дэпартацыі» яго да бацькоў.

Янка не бедаваў, а толькі падазрона ўсьміхаўся, маўляў, хутка ў школу...

## Г - к

### АБАРАНЮ!

Вось і добра. Нарэшце жыцьцё набыло фарбы. Дажджавыя кроплі сталі зноў нагадваць абуджэньне й рост, а не прамоклы абутак і абрыдлую слоту. Будзем жыць. Галоўнае, каб хапіла моцы. Божа, дай мне волі і веры, каб выстаяць, каб не адступіць, не зламацца, не прадаць, не здрадзіць!

Подлыя надпісы на сьценах і паклёпы ў мой адрас з боку «пятакалёнцаў» — гэта дробязь, якая не пужае й не спыняе. На гэтае шыпеньне ня варта нават азірацца. Турбуе іншае — праз мяне можа пацярпець мая Каханая. На дзень народзінаў Яна падарыла мне вышытую ўласнымі рукамі Пагоню. Ці магчыма прыдумаць лепшы падарунак? Не, даражэйшага ня можа быць. Гэтая Пагоня будзе саграваць мне сэрца вечна, нават калі ёй прыйдзецца пацярпець ад ботаў чырвона-карычневых.

Каханая, як я хачу зараз прытуліць Цябе да сябе, абхапіць рукамі за плечы і адчуць дотык Тваёй шчакі! Здаецца, гэтак ня страшна й памерці. І няхай толькі паспрабуе хто-небудзь узьняць над табой руку! Я Твой Цэрбэр. Ты пад маёй аховай. Я не спынюся ні перад чым, нават ахвярую сабой, каб абараніць Цябе. Я зраблю ўсё, каб жыла Ты, і жыла мая Краіна.

## Яўгенія Каляда

### INSERE INSELN ЦІ НАТАТКІ ВАР'ЯТКІ

*Ад аўтара*

*Ня ведаю, адкуль у маёй шуфлядзе ўзяліся гэтыя паперкі. Ня я іх пісала. Нехта іншы. Іншы Нехта...*

***

Чаму я так часта сьню яго? Напэўна, так мая падсьвядомасьць зьдзекваецца зь мяне. Пасьля ўсяго — і сьніць нашыя пацалункі?

Сёньня ўначы ён абдымаў мае калені, зазіраў ў вочы, як сабака... Неяк разгублена... Памятаю, аднойчы былі ў яго такія разгубленыя вочы. На навагодняй вечарыне... Калі ён глядзеў на мае паўп'яныя пацалункі з паўзнаёмым хлопцам. Можа, тады ён кахаў мяне?

Вось дурніца! Проста згадзіся, што ты хацела бачыць менавіта такія ягоныя вочы!..

***

Гэтае чужое, што жыве ўва мне — хто яно? Як дзіцёнак: сілкуецца мною, створаны мною, аднак — ня я. Чужое. Іншы Сусьвет.



Я яго ненавіджу!

Аднак жа балюча ненавідзець самую сябе!..

Сёньня на лекцыі па гісторыі рэлігіі раптам зарагатала. Апавядалі пра ўкрыжаваньне Езуса. Ніхто нічога не сказаў, ні тады, ні потым, аднак жа — як глядзелі!..

***

Чамусьці прыгадала словы бацькі, што вар'яты, калі вар'яцеюць, гэтага не заўважаюць. Значыцца, надзея ёсьць!

***

Сон.

Лес, самы гушчар. Ноч. Поўня. Вазярышча. У мяне доўгія-доўгія, белыя-белыя валасы, яшчэ мокрыя — толькі што купалася. Стаю на беразе, чагосьці напружана чакаю.

Чаго?

Вось так і стаяла ўсю ноч.

Дзякуй нябёсам, хоць ён больш не зьяўляецца.

***

Сябар паспрабаваў пераканаць у тым, што безадказнае каханьне — рэч надзвычай нецікавая.

Вінцэсь, ты памыляесься! Гэта вельмі цікавая зьява, прынамсі, для псыхіятраў!

«Распавядзі гэта свайму псыяхіятру!» Ж-жарцік!

***

Бяссоньне.

Гляджу на поўню, п'ю каву.

Гэта з-за яго я прывучылася да моцнай кавы. Ён мэтанакіравана зьнішчаў маю «дзіцячую бздуру» — паўлыжачкі на прыстойны кубачак. Першы раз ён набыў мне моцную каву ў цягніку, калі мы ехалі ў Варшаву, з-за чаго я ня спала ўсю ноч, а другі раз — раніцай у кавярні, у Варшаве — каб я выпадкова не заснула ўдзень. Я глытала гарачую вадкасьць і глядзела на яго, а ён, адчуваючы мой позірк, казаў быццам бы падлозе:

— Пройдзе, пройдзе. Ва ўсіх праходзіць, і ў цябе пройдзе.

Пройдзе... І ў мяне пройдзе.

***

Адкуль гэтыя фобіі? Іх не было раней.

Раптам усьвядоміла, што баюся восені. Кароткая вясна, кароткае лета, а потым — яна: брыдота, слота, і зіма — абыякавая: дождж, адліга, бруд... Як восень... Шэрае неба, сонца няма па месяцох. І вясна сапраўдная — толькі травень, і лета — маленькае, а потым — ізноў восень! Да дрыжыкаў баюся гэтых шэрых, мокрых дзён. Як можна любіць восень?.. Вечную сьмерць? Вясна... Кароткае ўваскрашэньне, каб ізноў памерці.

У Беларусі стагодзьдзямі такое надвор'е — спрадвечная восень...

Баюся чырвонага колеру. Ад аднаго ўсьведамленьня, што недзе існуе ідэальна чысты чырвоны колер — пачынае ўнутры нешта дрыжаць.

Што са мною робіцца?

***

Адчула, што хачу яго забіць. Глядзець у вочы, ненавідзець і забіць. Калі падумала, што будзе суд — расхацелася.

За сябе напалохалася. За сябе спужалася. Не за яго. Гэта — жудасна.

Ненавіджу сябе. Ненавіджу!

***

Цяжка гэта апісаць словамі; здаецца, гэта называюць «падваеньне асобы».

Ляжала ў ложку, амаль заснула. Раптам сьвядомасьць пашырылася, і ў сваёй уласнай галаве адчула дзьве істоты: уласна сябе і сябе насупраць. Яны абедзьве думалі, і я прасочвала адначасова два ланцужкі думак.

Гэта было некалькі імгненьняў, усхапілася з ложку, сьціснуўшы галаву.

Як вусьцішна жыць!

***

Наступіла на акуляры. Маленькія кавалачкі шкла, што калісьці былі маімі вачыма, журботна паблісквалі на падлозе, засмучаныя сваёй непатрэбнасьцю.

Сьвет ахутаў туман. Адразу зрабілася такой пакрыўджана-бездапаможнай, быццам бы ў калюжыну штурхнулі, і падняць няма каму. Расплакалася, як маленькая.

І нікога, нікога! Хаця б ужо Вінцэсь патэлефанаваў са сваёй вар'яцкай Польшчы. Тут лепшая сяброўка вар'яцее «по тихой грусти», а ён... Сябар завецца!

***

Яшчэ сон.

Я ня ўдзельнічаю, быццам гляджу кіно.

Сярэднявечча. Шэрае неба, вецер, шэрыя дрэвы, чорная зямля, шэры замак.

Дзяўчына зь белымі валасамі (тая, што была мною) у сярэднявечных строях; дакладна — каралеўна. Стаіць на дарозе ля замка, насупраць — рыцар у латах. Вецер матляе валасы й сукенку, замінае рухацца й дыхаць. Дзяўчына крычыць рыцару, каб перакрычаць вецер:

— Трэба ісьці ў поле!

У рыцара голас і без таго гучны:

— Навошта?

— Зьбіраць камяні!

— Навошта?

— Яны растуць у полі! Зараз восень — час зьбіраць камяні!

— Навошта?

Дзяўчына адварочваецца, прыўзьнімае сукню, бяжыць у поле. Пачынае зьбіраць камяні, нягледзячы на вецер, што ўсё мацнее. Рыцар стаіць на дарозе, глядзіць, як абсыпаецца замак, што быў зроблены з шэрага пяску.

***

Учора ўвечары падышла да люстэрка, хацела прыбраць валасы. А яна раптам зірнула на мяне маімі вачыма і сказала маім голасам:

— Кіса, нашто табе гэты пацук? «Віскас» кушай!

Спала з запаленым сьвятлом.

***

Ноч, ноч, ізноў ноч! Яна прыходзіць заўсёды, гэтая жудасьць. Я баюся. Баюся нават раніцай: усё роўна прыйдзе.

Неадвязная мара: зьехаць на Поўнач, каб заўсёды быў дзень і белы сьнег навокал. Якое шчасьце — увесь час сонца, сонца і шмат-шмат белага, сьветлага, бліскучага сьнегу! Якое шчасьце!

І сапраўды, якое шчасьце?..

***

Чаму мяне ніхто ня хоча зразумець?

***

Узгадала забытае слова «каханьне».

Як жудасна сьцякае крывёю гэтае слова! Быццам вымаўляеш «забойца».

Мне зараз трэба хаця б трошкі, хаця б крышачку даверу! Як бы я хацела патануць у ягоных моцных руках!

Але ўся праблема ў тым, што я хачу павіснуць на шыі ў таго, каго ненавіджу. Ці кахаю? Здаецца, гэта адное і тое ж.

***

За сьцяною заўсёды грае скрыпка. Дзе я гэта ўсё ўжо чытала?

***

Баюся людзей, баюся кніг. Рукі дрыжаць. Учора, адну за адной, выпадкова пабіла тры талеркі. Пачалася гістэрыка. Мэтанакіравана кідала на падлогу філіжанкі, талеркі, імбрык...

Пачула суседка, выклікала «хуткую». Божа ж мой, які сорам! «Внутривенное вливание».

Якія дурні! Ім няма да мяне справы.

Насамрэч людзям няма справы да ніводнага вар'ята. Яны проста баяцца за сябе. Сваіх дзяцей. Людзям, яны... А я — хто?

***

Што са мною робіцца? І хто ў гэтым вінаваты?

Ён? А што ён зрабіў?

Я? А я што зрабіла? Закахалася ў яго?

Божа! Чаму са мною?

Божа! Ці ёсьць Ты дзе-небудзь? Я ў Цябе ня веру! Ня веру.

***

Праз мой пакой усё бадзяюцца нейкія зданi: тая белавалосая дзяўчына, рыцар, яшчэ нехта... А ўчора на падваконьні сядзела мая котка, што памерла ў тым годзе. Нейкія вочы ў яе незразумелыя...

Я ўжо прывыкла. Нават трошкі лягчэй.

***

Я спакойная... Белая столь...

***

Я, здаеца, раскрыла сакрэт існаваньня.

У нашай галаве — нашай сьвядомасьці — існуе такі вялікі-вялікі Акіян, пакрыты туманам, і шмат-шмат выспаў. А мы плывем па гэтым Акіяне і падплываем то да адной выспы, то да другой...

Галоўнае — знайсьці сваю.

Так спакойна...

## Вольга Колас

### КАШТАН МАЙГО МАЛЕНСТВА

Пачаў зелянець каштан, і яго пакуль маленькія лісточкі падобныя да птушыных крылцаў. Каштанавая чарада імкнецца ўвысь.

Блакітнае неба спакойнае. Сонца ўтварае напружаныя цені ствалоў і іншыя цені, лёгкія, шалясьцячыя. Дрэвы адлюстроўваюцца на паверхні сьветла-карычневай, маючай смагу зямлі.

***

Дождж ідзе другі дзень, а можа і болей. То сьцішае голас, то ўзмацняе яго, але не прыпыняецца. Сьвежасьць паветра ад патокаў вады. Уражаньне, быццам наверсе здарылася аварыя, а адзіны майстра, які здольны ўсё ўпарадкаваць, захварэў. Кожны момант зямля макрэе пад шэрым небам. Яна ўжо ўдосталь спатоліла смагу і не прымае болей вадзянога напою, а пакідае яго на паверхні.

***

Высокія духмяные сьвечкі каштанаў пачалі таяць белымі пялёсткамі. Вось і зямля зноў пабялела напрыканцы вясны. Пялёсткавы сьнег не манатонны. Шмат адценьняў колераў і шмат узораў можна знайсьці ў ім, гледзячы, як спалучаюцца лініі-контуры. Мы ступалі са шкадаваньнем па гэтым сьнезе.

Прыемна заўважаць прыгожае, а не праходзіць міма, нібыта заплюшчыўшы вочы.

***

Дрэва, што квітнее, заўважнае ў цемры; і таму ня гаснуць ноччу каштанавыя трымальнікі надзей. Я сплю, а яны сьвецяцца.

## Алесь Менскі

### СПЫНІЦЬ РАКУ

*Прысьвячаю «Нашай Ніве»*

Ягоная нянавісьць да ракі нарадзілася ў далёкім дзяцінстве. Нёман пужаў маленькага Федзю. Такі спакойны звонку і такі хуткаплынны ў глыбіні, ён паздрадніцку вабіў хлапчыну да сябе, а потым цягнуў з усяе моцы ў бок Стоўбцаў, забіваў рот, нос ды вушы вадой. У невялічкім мястэчку на ўсход ад Варонежа, адкуль прыехала сям'я Арбатавых, не было такіх вялікіх рэчак. Да незнаёмага, як вядома, чалавек заўсёды ставіцца насьцярожана. А яшчэ Фёдар ніяк ня мог звыкнуцца з тым, што тутэйшая дзятва клікала яго Хвядосам. Ён крыўдзіўся на гэтую мянушку, бо лічыў, што яна гучыць абразьліва.

Фёдар на ўсё жыцьцё запомніў сьмех прыгажуні Ганулькі, якім яна ўзнагародзіла хлопца за адмову пераплыць Нёман «дзеля яе». Ён не крыўдаваў на дзяўчыну. Ва ўсім была вінаватая рака.

Нават зараз, пасьля стольких год, Нёман не даваў Фёдару Арбатаву супакоіцца. Ён, цяпер ужо старшыня саўгаса, здолеў, нарэшце, зьдзейсьніць сваю старую мару — пабудаваць уласны катэдж. Навюткі гмах зіхацеў на сонцы трыма паверхамі шыбаў у белых плястыкавых рамах. Аднак нават цагляны мур, які, здавалася, падпіраў неба вострымі жалезнымі пікамі, ня мог ўратаваць пабудову ад Нёмана: рака павольна, але настойліва падмывала высокі бераг.

І тут старшыня ўспомніў, як у адным школьным паходзе настаўніца паказала іхняй клясе крынічку, кажучы: «Вось, дзеці, адсюль бярэ свой пачатак наш родны Нёман...» Крынічка была такая маленькая, кволая...

«Пятровіч? Рыхтуй машыну. Пясок ды цэмэнт. Нашто? Калі прыедзеш на месца, тады растлумачу», — сказаў Фёдар Арбатаў і паклаў слухаўку на апарат.

***

— Ну вось, нарэшце ўсё. Цэмэнт добры. Зараз як сьлед схопіцца — тады ніякі струменьчык не праб'ецца.

— Дзякуй, Пятровіч. Абрыдла мне гэтая рака, усю душу выела. У мяне дома кропля ёсьць. Зазірнеш?

— Анягож, Фёдар Палікарпавіч.

***

Калі вы жадаеце даведацца, ці зьнік Нёман — не палянуйцеся, купіце квіток на аўтобус ці цягнік і праверце самі. Вось толькі катэджа таго не шукайце, бо заўсёды знойдзецца крынічка, якая дасьць жыцьцё нашаму Нёману.

Уладзімер Скрабатун

# КАТЭДРАЛЬНЫ САБОР У ГЛЫБОКІМ

*Глыбокае — маленькі гарадок, пабудаваны з дрэва, як і ўсе гарады ў гэтае мясцовасьці. Галоўным будынкам у ім быў ня замак, а вялікі кляштар. Напалеон спыніўся тут, сюды ж прыбыла яго гвардыя...*

*Адольф Т'ер*

Глыбоцкі Катэдральны сабор Нараджэньня Найсьвяцейшае Багародзіцы Полацка-Глыбоцкае епархіі выдатна прэзэнтуе архітэктуру Беларусі 17-18 стст. Да паўстаньня 1863-64 гг. гэта быў касьцёл кляштара айцоў Ордэна кармэлітаў босых. За актыўны ўдзел мніхаў кляштара ў паўстаньні прыстанак кармэлітаў быў зачынены, а велічны храм расейцы передалі праваслаўным.

Гісторыя бажніцы пачынаецца з таго часу, калі Язэп Корсак, стараста Дзісьненскі, ваявода Мсьціслаўскі,



жадаючы зрабіць Глыбокае агменем распаўсюджваньня каталіцызму, фундаваў у 1628 годзе касьцёл парафіяльны Сьвятое Тройцы ў Глыбокім, пабудаваны напачатку з дрэва. 30 красавіка 1638 году ён фундаваў у Беразьвеччы манастыр базыльянскі ў імя Сьвятых Пятра і Паўла. У наступным, 1639 годзе, фундаваў у Глыбокім касьцёл і кляштар айцоў Ордэна кармэлітаў босых і аддаў ім мястэчка Глыбокае, а таксама Ластавічы, Сьвілу, Перадолы, дакупіў ім за 140 000 злотых Гнязьдзілава і Вольберавічы. У 1642 годзе фундаваў ва ўдзеле касьцёл у імя Нявіннага Пачатку Найсьвяцейшае Марыі Панны і аддаў яго мніхам Ордэна францішканаў.

Язэп Корсак памер у чэрвені (альбо ліпені) 1643 году «бязжонны». Ня маючы нашчадкаў, усе свае маёнткі завяшчаў на будаўніцтва глыбоцкіх сьвятыняў, частку — сваёй адзінай сястры Фядоры. Корсак быў перакананым уніятам.

Для паскарэньня будаўніцтва касьцёла і кляштара кармэлітаў Корсак падараваў мніхам сем коняў для падвозу будаўнічых матэрыялаў. І да сёньня бытуюць розныя паданьні, зьвязаныя з будаўніцтвам кляштара. Сьцьвярджаецца, што ад Полацка да Глыбокага стаяў жывы ланцуг людзей, якія перадавалі цэглу з рук у рукі.

Будаўніцтва было скончанае ў 1654 годзе. У гэты ж год Глыбокае было занята войскамі маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча. Аднак храм застаўся некранутым. Спаленымі сталіся драўляныя касьцёлы, як у кармэліцкай (правабярэжнай) частцы — мястэчку Глыбокім, так і ў левабярэжнай (радзівілаўскай) — горадзе Глыбокім. (Рака Бярэзьвіца дзяліла цяперашняе Глыбокае на дзьве часткі. Мястэчка належала да Полацкага ваяводзтва. Горад — да Ашмянскага павету Віленскага ваяводзтва. Гэта — абсалютна выключны выпадак у гісторыі Беларусі.) Новапабудаваная бажніца мела выгляд «суворага» барока, з масыўнымі тоўстымі сьценамі, з аднолькавымі вежамі на заходнім і ўсходнім фасадах. Аскетычны выгляд касьцёла нагадваў крэпасьць ці мініятурны замак. Пра выгляд вежаў можна меркаваць паводле тых, якія дагэтуль захаваліся на заходнім фасадзе хіба што бязь зьменаў.

Наперадзе была новая эпоха — эпоха ракако. Выгляд храма ўжо не адпавядаў мастацкаму густу 30-х гадоў 18 ст. Касьцёл зазнаў значную перабудову пад кіраўніцтвам таленавітага віленскага дойліда Яна Кшыштафа Глаўбіца, «дыктатара» новага стылю. Гэты пэрыяд, калі перабудоўваліся альбо будаваліся новыя храмы з высокімі, стромымі, шмат'ярусными вежамі, зь фігурнымі франтонамі на фасадах, у храмавым дойлідстве ракако Беларусі атрымаў асобнае азначэньне — «віленскае барока». Стваралася ўражаньне лёгкасьці будынка, імклівага ўзьлёту вежаў да нябёсаў. Гарэзьлівая архітэктура ракако, зь яе выгібамі й заглыбленьнямі, фігурнымі й хвалістымі гзымсамі, мудрагелістымі ракайлямі, стварала ўяўленьне аб жыцьці як аб захапляючым сьвеце. Дойліды адлюстравалі багацьце эліты таго часу, панаваньне над усімі, але яны верылі, што ствараюць творы не аднаразовыя, а вечныя. Новаперабудаваны глыбоцкі касьцёл кармэлітаў у імя Народзінаў Найсьвяцейшае Маці Божае быў асьвечаны віленскім біскупам Ежы Анцутам 3 ліпеня 1735 году. Гэта была першая бажніца ў межах сучаснае Беларусі, якая адкрыла цэлую эпоху ў храмавым дойлідстве — эпоху «віленскага барока». Ужо пазьней былі перабудаваныя альбо пабудаваныя нанова Полацкая Сафія, касьцёлы Менску, Віцебска, Івянца, Дзятлава і славутая Беразьвецкая царква.

Крыху трэба сказаць пра тое, які выгляд пасьля вялікай перабудовы меў увесь разьлеглы ансамбаль глыбоцкага кляштара Ордэна айцоў кармэлітаў босых.

Перад касьцёлам была ўзьведзеная трохпралётная ўваходная брама ў плястыцы ракако, якая захавалася й да сёньня...

Кляштар атачала мураваная сьцяна, часткова вастракольле. Рог сьцяны, ад боку цяперашняга пастарунку міліцыі, замыкала капліца, бы па аналёгіі з крэпаснай вежай, але ў стылёвае сувязі з храмам. Яна была зьнішчаная пасьля апошняй вайны, частка муаванай сьцяны разабраная на цэглу. Сам кляштар быў выкананы ў форме квадрата з унутраным дваром, засаджаным грушамі. Адзін бок крыла кляштара складаў касьцёл даўжынёй 72 аршыны, тры другія — сьцены корпусу-інтэрнату, таксама даўжынёй па 72 аршыны. Сам кляшторны корпус меў два паверхі. (У гістарычнай літаратуры часам пішацца, што ён быў трохпавярховы. Тут, напэўна, блытаніна вынікае з таго, што кляшторны корпус сапраўды меў мансардавы паверх, які можна лічыць трэцім паверхам.) Мніхаў у кляштары было да 30 чалавек, клерыкаў — 50. Кармэліты ўтрымлівалі элемэнтарную вучэльню, канвікт (інтэрнат) на 12 бяднейшых вучняў, бібліятэку на 2,5 тыс.тамоў. Апроч справаў выключна рэлігійных, тут адбываліся шматлікія дзеі гістарычныя, паэтычныя, мэдычныя і прававыя. Кляштар меў свой фізычны кабінэт, які ўтрымліваў 130 штук рознага інструмэнту, ілюстраваныя кнігі і пляны, збор гравюраў і мапаў. Быў і свой шпіталь, які пасьля перабудовы разьмяшчаўся ў асобным будынку. Была ўласная аптэка. На першым паверсе кляштара разьмяшчаўся пакой для выдачы лекаў, былі лябараторыі, пакоі для захаваньня матэрыялаў, склад зёлак.

Непадалёк ад кляштара, уздоўж цяперашняй вуліцы М.Горкага, ляжаў разьлеглы кляшторны сад, які быў атачаны высокай муаванай сьцяной. Яе разабралі на цэглу падчас аднаго суботніка ў 80-я гг. Частка яе, некалі вельмі працяглай, захавалася ад боку цьвінтара «Копцеўка». Выканана яна з чырвонае цэглы. Муроўка чаргуецца з дамешкай валуноў — штосьць у «стылі» замкавай муроўкі, з арачнымі нішамі. На месцы сада — стадыён, а ў час вайны — цьвінтар, дзе хавалі нямецкіх жаўнераў. Аднак засталіся ў некалькі абдымаў ліпы, ясені й вязы на колішніх прысадах. Тое, пры дбайных адносінах, магло б стаць фонам для аднаўленьня аднаго са старэйшых паркаў Беларусі.

Меў кляштар і сваю фабрыку сукна, вялікія гмахі складоў і сьвіранаў. На гандлёвым пляцы рынку кармэлітаў (цяпер пл.17 верасьня), паміж двума касьцёламі — Траецкім і Кармэліцкім — стаяла вялікая мураваная аўстэрыя ў стылі барока. Як пісаў Ота Гедэман, аўтар кнігі аб гісторыі Глыбокага часоў Рэчы Паспалітае: «Гэта ўстанова была ўнівэрсальнай, гэта значыць карчмой, заезным домам, а таксама свайго роду клюбам і забаўляльнай установай. Сюды прыяжджалі ў нядзельныя і сьвяточныя дні арыстакраты, у гандлёвыя дні зьбіраліся мяшчане і падданыя, тут наладжваліся пагулянкі й танцы, вельмі часта пілі гарэлку, пра што сьведчаць шматлікія акты...» Рынак кармэлітаў заняпадаў і адраджаўся з прычыны вялікай канкурэнцыі з боку рынка ў радзівілаўскай частцы Глыбокага — больш заселенай і зь вялікай колькасьцю крамаў.

Ансамбаль аўстэрыі канчаткова быў зьнішчаны мясцовай уладай у пач. 80-х гг. На яе месцы — фантан зь мясцоваю назвай «Сьлёзы Карэпавай» (колішні «мэр» Глыбокага). Да гары, на якой стаяў кляштар, падступалі сажалкі, выкапаныя падданымі кляштара. Адна — даволі вялікая, тры меншыя, злучаныя паміж сабой пратокамі. Сажалкі служылі вадасховішчам, якое прыводзіла ў рух млын. У сажалках мніхі разводзілі рыбу. Яшчэ ў 1651 годзе беразьвецкія базыльяне скардзіліся на кармэлітаў, якія «рыбу гвалтам ловяць у базыльянскім возеры Астроўна, сажалкі сабе кляшторнымі рыбамі напаланілі». Марожаных карасёў, санным шляхам, дастаўлялі нават у Каралевец (Кёнігсбэрг). На месцы сажалак стаіць цяпер Глыбоцкі кансэрвавы завод.

На адлегласьці, на Копцеўскім пагорку, стаіць і сёньня Ільінская капліца, якая некалі належала да кармэлітаў. Яе адносяць да фундацыі Корсака 1640 году. Формы архітэктуры клясыцызму гавораць пра тое, што гэты выгляд яна набыла дзесь на мяжы 18-19 стст.

Пасьля далучэньня Глыбокага да Расеі, падчас трох разбораў Рэчы Паспалітай, кармэліты пачалі ратаваць яе дух у тутэйшым краі. Яны выкарыстоўвалі сваю дзейсную зброю — адукацыю. 1 ліпеня 1798 году правінцыял кармэлітаў заўважае: «Кляштар глыбоцкіх кармэлітаў штогод будзе плаціць 10 000 злотых на ўтрыманьне пры беразьвецкай школе дзесяці вучняў». Празь сем гадоў, у 1803 годзе, інспэктар Віленскага ўнівэрсытэта, ксёндз Ксавэры-Міхаіл Богуш у рапарце аб сваёй паездцы піша: «Праездам з Лужкоў заехаў у кляштар кармэлітаў босых, каб падзякаваць за зробленыя ахвяраваньні для навучаньня беднай шляхты, за забесьпячэньне жыльлём, адзеньнем, харчаваньнем, утрыманьне аптэкі і лекара. Дзеці ж гэтыя ў знак падзякі тым жа кармэлітам, і гэта адзначыць мушу, за свой кошт навучаюць па вёсках сялянскіх сіротаў абодвух палоў у колькасьці 84; у тых жа самых фальварках вучаць бедную шляхту — 4 чалавекі. У самім кляштары ўтрымліваюць 12 сіротаў, якія вучацца чытаць, пісаць, арыфмэтыцы і асновам музыкі». Далей інспэктар просіць, каб Віленскі ўнівэрсытэт выказаў кармэлітам падзяку.

Настаў 1812 год. 18 ліпеня ў Глыбокае прыбыў Напалеон. Ён разьмясьціўся ў трох кельлях верхняга паверху кляштара. Тут ён прабыў 10 (па іншых дадзеных — 7) дзён у чаканьні цяжкае артылерыі. Напалеон загадаў стварыць у Глыбокім склады баявых і харчовых запасаў. «Прыгожы кляштар у вельмі ўрадлівым раёне», — так ахарактарызаваў прыстанак кармэлітаў обэр-шталмайстар Напалеона А.Куленкур. «Урадлівя раўніны Глыбокага», як пісала Дэ Сэгюр, павінны былі пракарміць «Вялікую Армію» Напалеона.

Існуе паданьне, што аднойчы імпэратар паклікаў да сябе архімандрыта кляштара і запытаў айца-кармэліта: «Ці вялікія ўладаньні кляштара?» «Тысяча хатаў», — адказаў мніх. «Гэта занадта шмат! — сказаў Банапарт. — А чым вы займаецеся?» «Молімся», — адказаў кармэліт. «А гэта вельмі мала!» — былі словы імпэратара.

У першы ж дзень свайго знаходжаньня ў Глыбокім Напалеон выдаў загад усім карпусам аб распаўсюджваньні «Адозвы Канфэдэрацыі генэральнай да палякаў». Гэтая адозва прызначалася палякам, якія знаходзіліся на расейскай службе. З Глыбокага за яго подпісам быў адпраўлены загад ад 20 ліпеня, які ў вострай форме асуджаў францускіх жаўнераў за марадзёрства, прызначаў ваенные суды для пакараньня вінаватых.



У 1831 годзе край перажываў трывожныя дні, пачалося паўстаньне, якое ў ваколіцах Глыбокага, Лужкоў і Дзісны прыняло значны размах. У Лужках быў створаны паўстанцкі камітэт. Вялікую дапамогу камітэту аказаў глыбоцкі кляштар кармэлітаў. Са сваіх маёнткаў ён паставіў 300 сялянаў. У распараджэньне камітэту былі вызначаныя ксяндзы-кармэліты Анзэльм Гурскі, Ігнат Руткоўскі, Патрыцы Корсак, Нарцыз Валынскі. Пасьля падаўленьня паўстаньня яны былі асуджаныя, як і 62-гадовы прэор Уладыслаў Казакевіч, ксёндз Глыбоцкага Траецкага касьцёлу Рамуальд Глінскі і малады сьвятар уніяцкай царквы Аляксандар Скалабановіч (уніяцкая царква стаяла на месцы цяперашняга рэстарану «Колас»). Сьледства вёў віцэ-губэрнатар магілёўскі Мураўёў. Сьцены кляштара кармэлітаў сталі на доўгі час месцам знаходжаньня Мураўёва-вешальніка, месцам чалавечых пакутаў.

Нічога не далі ўступкі ксяндза Крушынскага. Ужо ў 1842 годзе вялікія ўладаньні кармэлітаў: Глыбокае, Ластавічы, Перадолы, Запалоўе, Амбросавічы, Каралевічы, Варанова, Сьвіла, Вольверавічы, Янкі і Крукі, дзе былі 3174 мужчыны, перададзеныя ў скарб. Усюды былі прызначаныя адміністратары. Для кляштара было пакінута толькі 203 дзесяціны зямлі. Але кляштар захаваўся.

Надышоў 1863 год. Па традыцыі кляштар ня мог застацца абыякавым да таго, што рабілася на ўсходніх землях былое Рэчы Паспалітае. У 1878 г. глыбоцкі дабрачынны А.Кастлінскі пісаў: «Год 1863 ізноў паклікаў на сцэну дзеяньняў ксяндзоў кармэлітаў глыбоцкіх, якія, парушаючы прысягу, падбухторвалі да паўстаньня, хавалі злачынцаў...» Зьдзейсьніўшы суд пасьля задушэньня паўстаньня і выявіўшы віну ксяндзоў, касьцёл і кляштар былі закрытыя і аддадзеныя праваслаўнаму духавенству.

1865 год — год закрыцьця. А ў 1878 годзе будынак яго быў пасьля перабудовы перароблены і асьвячоны пад царкву. Фабрыка сукна, станкі, аптэка, шпіталь, пабудовы прыйшлі ў заняпад. Пансыянат закрыты, бібліятэка з 2,5 тыс. тамоў, збор карцінаў і геаграфічных мапаў разам зь фізычным кабінэтам былі перададзеныя Віленскаму музэю. Большасьць сабранага загінула альбо была раскрадзеная.

У 1892 годзе два крылы кляштара былі разабраныя на цэглу з-за спарахнеласьці. У 1885 годзе над сяродкрыжжам храма быў збудаваны фальшывы драўляны купал «бізантыйскага» кшталту, для чаго прыйшлося абніжыць дах і разабраць бакавыя франтоны. Гэтую «перабудову» Станіслаў Лёранц назваў «сьведчаньнем выключнай адсутнасьці культуры». Купал згарэў у ліпені 1944 году.

У гады незалежнай Беларусі храм перажывае новы рэнэсанс. Праваслаўная царква (б. касьцёл кармэлітаў) стала Катэдральным саборам Полацка-Глыбоцкай епархіі. Трэба сказаць, што гэтаму тытулу выдатна адпавядаюць вялікія памеры храма і яго выдатная архітэктура. Пілігрымаў колісь перад храмам вітаў бы надпіс на мармуровай пліце: «У імя Бога! Стань Богабоязна, вандроўнік, і на сам від сьвятыні складзі ўдзячнасьць неўміручаму імені Корсакаў».

Хада гісторыі сёньня ідзе сваёй чарадой... Выдатны помнік архітэктуры прыходзіць у заняпад. Касмэтычны рамонт не вытрымлівае й году. Пабелку, выкананую няякаснай фарбай, змывае дождж, сьнег, вільгаць. Працякае дах, завільгочваецца муроўка, зьяўляюцца трэшчыны...

Мяне хвалюе іншае... Як цьвердзіць мясцовая плётка, адна бабуля з адлеглага хутара ўвяла бацюшку ў вушы, што зь яе хутара, за трыццаць кілямэтраў, быў бачны да вайны купал, і што яго трэба абавязкова аднавіць. Бабуліна «ідэя» ўсім спадабалася — і начальству, і бацюшку. Думка бабулі можа стацца больш кампэтэнтнай, чым думка гісторыка архітэктуры Станіслава Лёранца, не кажучы пра меркаваньне краязнаўцаў, якія дзесяцігодзьдзямі зьбіралі іканаграфічны матэрыял і маюць уяўленьне, якім храм быў да перабудовы пад царкву. Гэта значыць — у сваім поўным выглядзе, як помнік архітэктуры «віленскага барока». Нікога ўжо ня будзе хваляваць тое, што фальшывы бізантыйскі купал з «цыбулінай» наверсе не пасуе ні да барока, ні да ракако. Праектнае бюро выканае заказ згодна волі бабкі, бо трэба ведаць і думку народу. Будынак, хаця й з «благімі» намерамі, будзе маральна зьнішчаны.

Хвалюе тое, хто будзе рэалізоўваць праект. Спэцыялісты альбо крутыя «шабашнікі»? У верасьні гэтага году я наведаў вёску Мамаі ў ваколіцах Глыбокага. Тут ёсьць праваслаўны (некалі каталіцкі) храм, які пасьля 60-х гг. быў зачынены і прыстасаваны пад калгасны склад. Храм, з выразнымі рысамі клясыцызму, цяпер адбудоўваецца... Але як?! Прыгналі кампрэсарную ўстаноўку і... на гладкіх сьценах храма робяць тынкоўку «пад шубу». Бацюшку, напэўна, усё адно, што губляюцца пад тынкоўкай абрысы капітэляў на калёнах, архітэктурная клясыцыстычная аздоба на франтоне... Над дахам узьвялі купал псэўдарускага стылю, якога ніколі не было. Мураваная сьцяна, якая атачае храм, з тыповай для гэтага краю разынкавай муроўкай, зафарбаваная ў белы колер — зьнішчыўся ўвесь яе прывабны выгляд...

Ініцыятыву глыбоцкіх уладаў, парафіянаў і праваслаўных сьвятароў трэба вітаць! Але стылістыку гістарычнага храма павінны вырашаць спэцыялісты. Я не зьяўляюся катэгарычным праціўнікам узьвядзеньня на сяродкрыжжы глыбоцкага катэдральнага сабора купала. Але, калі гэтага купала хочуць «усе»!?, то ён павінен быць збудаваны згодна з канонамі стылю ракако і ўпісвацца ў ансамбаль храма і быць не грандыёзных памераў, што парушыць стылістыку будынку, а адпаведнай прапорцыі. Акрамя таго, павінна быць канцэпцыя будучыні былога кляштара кармэлітаў у Глыбокім. Зразумела, што ніхто ня будзе настойваць на адбудове фабрыкі сукна і сьвірнаў. Аднак варта аднавіць два крылы кляштара, якія можна скарыстаць для патрэбаў Полацка-Глыбоцкае епархіі, карціннай галерэі, музэя... Адбудаваць мураваную сьцяну, капліцу, аўстэрыю, двухпавярховую плябанію. На ўсё гэта — няма грошай. Але гэта сёньня. А праз год, пяць? Грошы могуць знайсьціся, але што будзе, калі ад пачатку будзе прынята недастаткова абгрунтаванае рашэньне і нічога нельга будзе зьмяніць ужо потым?



*Касьцёл кармэлітаў босых у Глыбокім*
*Рэканструкцыя віда паводле іканаграфічнага матэрыялу XIX ст.*

*Рэканструкцыя аўтара*

# СЯМ'Я І ЖАНЧЫНА




*Галіна Дзербіна. Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнэсансу. Менск: «Тэхналёгія», 1997; 176 стар. (ISBN 985-6234-31-X)*

Узьнятая гэтай кнігай тэма і старая, і новая. Старая, бо, бадай, дасьледаваньне права Вялікага Княства Літоўскага было падмуркам вывучэньня гэтай дзяржавы ўвогуле. З пачаткам XX стагодзьдзя гэтая тэма не атрымала працягу — таталітарнай дзяржаве не было патрэбы ў прававых досьледах. Інтарэс да іх ажывіўся ў 1980-х гадах, і асабліва ў 1990-я (у сувязі з пабудовай «прававой дзяржавы»). Тэма набыла новы імпульс. А вось дасьледаваньне сям'і і асабліва становішча жанчыны ў грамадзянстве ВКЛ для нашай гістарыяграфіі можна лічыць новай зьявай. Асьвятляючы сям'ю пераважна ў прававым аспэкце, Г.Дзербіна галоўны націск зрабіла на разглядзе нашых славутых заканадаўчых помнікаў — Статутаў ВКЛ 1529, 1566, 1588 гадоў. Шлюбныя дачыненьні ў іх разглядаюцца, але не ва ўсёй паўнаце. Куды больш зьвестак пра гэта можна знайсьці ў помніках кананічнага права як праваслаўных, так і каталіцкіх. «Шлюбныя дачыненьні, — піша Г.Дзербіна, — знаходзіліся па традыцыі пад юрысдыкцыяй царквы, у пэўнай ступені рэгуляваліся толькі Статутам 1588 г.» Пасьля такой заявы чытач кнігі чакае разгляду менавіта царкоўнага права. Але выяўляецца, што існуе велізарная нераўнамернасьць ў дасьледаваньні сьвецкага і духоўнага права старасьвецкай Беларусі. Сапраўды, пра Статуты ведаюць усе. А хто ведае кормчыя кнігі? А яны суіснавалі побач. Яскравы прыклад — перапісаная ў апошняй трэці XV стагодзьдзя на тэрыторыі Турава-Пінскай епархіі ў адным зборніку кормчая кніга Сэрбскай рэдакцыі і так званы Судзебнік ВКЛ 1468 г. Духоўнае права, тыя ж кормчыя кнігі, дасьледаваны зусім мала, і праца Г.Дзербінай тут ня стала крокам наперад (тут нават не прыгадваецца адзінае манаграфічнае дасьледаваньне кормчых Я.Шчапава). Цікава было б прасачыць, як сьвецкае права ВКЛ эпохі Рэнэсансу суадносілася і змагалася з царкоўным і сярэднявечнымі пастановамі. Затое ў кнізе падняты вялікі пласт магдэбурскіх узаканеньняў, у тым ліку працы польскіх юрыстаў XVI ст. Б.Граіцкага і П.Шчэрбіча. Раней у беларускай гістарыяграфіі ім не шанцавала. Іх ведалі, упаміналі, але не вывучалі. Можа таму, што былі палякамі, пасярэднікамі паміж Магдэбургам і Беларусьсю? Цяпер гэтая несправядлівасьць у пэўнай меры пераадоленая. Будзем спадзявацца, што знойдзе свайго дасьледчыка і «Караліна», бо гэты вядомы нямецкі кодэкс XVI ст. адно толькі прыгадваецца ў данай кнізе. Традыцыйнасьць абранага Г.Дзербінай накірунку палягае і ў тым, што дасьледаваньне шлюбу і сям'і вядзецца амаль выключна на заканадаўчых помніках — Статутах і

## СТО ТВОРАЎ XX СТАГОДЗЬДЗЯ



# Міхал Станюта. Партрэт дачкі

*Кожнае стварэньне мастацтва ёсьць дзіцём свайго часу, але часта яно і маці нашых пачуцьцяў.*

*Васіль Кандзінскі*

Ці ня першае, што пачынае маляваць дзіцё, як бярэ ў рукі паперу ды алоўкі — сваіх родных, тату і маму. Кожны, хто вучыцца мастацтву, абавязкова час ад часу бярэ сабе мадэлямі сваіх блізкіх, тых, хто атачае яго штодзень і гатовы паспрыяць маладому таленту ў яго разьвіцьці. Пазьней, калі чалавек усё ж адбываецца як мастак, ягоныя памкненьні папросту могуць ужо не супадаць з жаданьнем наноў адчуць радасьць кроўнага прыцягненьня. Хоць, дарэчы, крэўныя мастакоў заўсёды патаемна чакаюць гэтага...

... Дзеці мастакоў зазвычай стаюцца матывам самага кранальнага й глыбокага кірунку ў партрэтным жанры. Дзеці — не бацькі, якія маюць пра саміх сябе ўжо пэўнае й нязрушнае меркаваньне. Дзеці — ня жонкі, якія міжволі зазіраюць у палатно як у люстэрка й сьведама параўноўваюць сябе зь іншымі мадэлькамі. Малюючы сваіх дзяцей, мастакі бачаць, альбо хочуць бачыць толькі тое, што гэта іхныя дзеці. Таму ў гэткіх творах няма другога дна, як гэта адбываецца, напрыклад, з партрэтамі чужых асобаў, якіх мастак уяўляе сабе знакава, утрыравана, для прастаты свае задачы. І часам памыляецца. Выбітны партрэт можа зьмяшчаць зусім апрычоны ад арыгіналу зьмест. Ад гэтага выдуманага, паралельнага сьвету мастацтва толькі дабірае...

... Як самастойны жанр партрэт уласных дзяцей зьявіўся ў XVII стагодзьдзі. Бясконцы аптыміст Рубэнс і драматычны рэаліст Рэмбрандт стварылі цэлую галерэю сваіх сямейных партрэтаў. Рэмбрандт абагаўляў свайго сына Цітуса і пісаў ягоныя партрэты шматкроць, часьцяком пераапранаючы яго ў дзіўныя, экзатычныя строі, як ляльку ці, калі заўгодна, найлепшага актора, які мог сыграць любую ролю ў ягоных палотнах. Нават пасьля сьмерці хлопчыка ягоны вобраз не пакідаў самотнага старога мастака... Цітус-анёл, Цітус-хэрувім, Цітус-сын...

... Кожнага разу цікавасьць да сямейных партрэтаў як інтымных, зробленых найперш для сябе, а не на публіку, абуджаецца на зломах эпохаў і стыляў. Гэты жанр зьявіўся ў Беларусі менавіта ў самым апагеі вонкавых і ўнутраных жарсьцяў, паміж паходам Напалеона й паўстаньнем 1831 году. Дзьве скрайнасьці — рэлігійны жывапіс і партрэт, як і ў XVII стагодзьдзі ў Эўропе, вызначылі найбольшыя дасягненьні ў мастацтве. Сямейны партрэт запачаткавалі ў Беларусі рамантыкі зь Віленскага ўнівэрсытэту: Рустэм, Аляшкевіч, Пешка...

... У 1904 годзе былы выпускнік Кіеўскай малявальнай школы (як і Малевіч, і Бялыніцкі-Біруля) і Пецярбурскае Акадэміі, Якаў Кругер адкрывае ў Менску курсы маляваньня й жывапісу. Разам са школаю Пэна ў Віцебску, гэта было адраджэньнем мастацкай школы ў Беларусі напрадвесьні XX стагодзьдзя. Адным з тых першых беларусаў, хто атрымаў адукацыю найперш у школе Кругера, быў Міхась Станюта.

Час вучобы Станюты ў Маскве, у Дзяржаўных вольных мастацкіх майстэрнях, «выняў» яго з куламесы войнаў і руйнаваньняў, што адбываліся ў Беларусі. Два гады — надта мала для гісторыі, але надта шмат, як для Беларусі... Вучоба ў буйнейшых расейскіх калярыстаў, Архіпава й Касаткіна, блізкасьць да пастімпрэсыянізму «Бубновага валета», сфармавалі яго рамантычным летуценьнікам, сквапным на ўражаньні ад колеру. Станюта вяртаецца ў Менск сталым чалавекам. Не адразу камісары разгледзелі ў ім «фармаліста», прызначыўшы кіраўніком аддзела выяўленчага мастацтва пры Галоўпалітасьвеце. Напэўна, вырашальную ролю тут адыграла тое, што ён быў «чалавекам з Масквы». Зрэшты, й пасьля яго прызначалі на розныя пасады, нават на старшыню Саюза мастакоў БССР. Але гэта было пазьней... У 1921 ён шчыруе над стварэньнем мастацка-вытворчых майстэрняў «Выяўленчае мастацтва». Менавіта ў іх гартаваўся правобраз будучай дзяржаўнай замовы. У іх дзясятку мастакоў стварылі плякаты, кнігі, габэлены, нават цацкі... Як бурбалкі ў заліву, пачалі множыцца мастацкія школы. Станюта сам выкладаў у школе свайго сябра й цёзкі Міхася Філіповіча, у гэтак званай «Свабоднай акадэміі Філіповіча». Неўзабаве гэты разгон будзе прыпынены. Зьнішчальная крытыка не абміне нікога. Нават у 1990 годзе ў «Гісторыі беларускага мастацтва» Дробаў з Масьленікавым напішуць, што Станюта «ад матываў упадніцкай дэкадэншчыны прыходзіць да адлюстраваньня рэальнага жыцьця рабочага кляса...». Сярод віра над безданьню, у якую няўмольна пераўтваралася бальшавіцкая БССР, Міхал Станюта ў цішы сваёй майстэрні піша партрэт дачкі.

... У любых абставінах, перад прадчуваньнем немінучай жорсткасьці лёсу, у чалавека застаецца магчымасьць прызнаньня ў любові. Да Бога, да каханай жанчыны, да родных дзяцей...

Партрэт дачкі Стэфаніі, які быў створаны ў 1923 годзе, і надоўга, на дзясяткі гадоў, быў схаваны ад публікі, стаў тым ня менш ці ня самым выбітным дасягненьнем Станюты-жывапісца. Нечаканая, рыхтык як у Гагена, дэкаратыўная трактоўка фону й поўная прыхаванае дынамікі кампазыцыя. Выламаная, дакладней, надуманая пастава дзяўчыны выдае ў ёй ня толькі гарэзу, але й разьняволеную артыстычную асобу. Пры дакладна разьлічанай кампазыцыйнай схеме, у гледача ўсё адно застаецца ўражаньне адвольна выхапленага фрагмэнта са стыхійнае плыні рэчаіснасьці. Маланкападобная кампазыцыйная вось падкрэсьленая зусім чыстым, дэкаратыўным жывапісам. Каляровыя плямы, дзвонкія ноты аранжу й кобальту, закліканыя ня столькі перадаць канкрэтны асяродак, як падкрэсьліць радаснае адчуваньне невычарпальнае энэргіі. У гэтым сэнсе гэты твор куды бліжэй да чыстага жывапісу, да вырашэньня большых задачаў, чым адлюстраваньне «рэальнага жыцьця».

Невядома, наколькі высока ацэньваў гэты свой твор Міхал Станюта, які безнадзейна далёкі ад усіх наступных ягоных работаў. Гэткіх, як «Бэтоншчыкі» (1927), альбо «На будоўлі» (1929). Аднак у гэтым, нібыта напісаным праз залатое шкло, партрэце наша мастацтва атрымала выбітны ўзор чыстае красы, унікальны для эпохі сярэдзіны 20-х гадоў БССР.

Напісаны, бадай, без усялякае «праграмы», партрэт дачкі Стэфаніі, стаў сымбалем патэнцыялу тае, маладое Беларусі. Той самай Стэфаніі Станюты, будучай легенды беларускага акторства, прымадонны Нацыянальнага тэатру імя Янкі Купалы, якую мы ведаем па яе ролях у «Плачы перапёлкі», у «Людзях на балоце», у «Сьнежнай каралеве», па шмат якіх іншых ролях у тэатры й кіно.

**Сяргей Харэўскі**



***Міхал Станюта** (1881, Ігумен – 1974, Менск) жывапісец, графік, пэдагог. Пачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у Менскай малявальнай школе Кругера. З 1918 па 1920 займаўся ў Дзяржаўных вольных мастацкіх майстэрнях у Маскве. У 1920 годзе ачоліў аддзел выяўленчага мастацтва Галоўпалітасьветы Беларусі. З 1924 быў сакратаром аб'яднаньня мастакоў Беларусі, пасьля – Усебеларускага аб'яднаньня мастакоў, да 1930.*

**У ПАПЯРЭДНІХ НУМАРАХ ПРАДСТАЎЛЕНЫЯ ТВОРЫ:**

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск, лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамэнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск, 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына
15. Міхал Філіповіч. Бітва на Нямізе
16. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Касьцёл Пятра і Паўла ў Дрысьвятах
17. Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы
18. Ян Булгак. Выгляд з Зарэчча
19. Іосіф Лянгбард. Менская Опэра
20. Аркадзь Астаповіч. Дворык
21. Клаўдзі Дуж-Душэўскі. Сьцяг
22. Прывакзальная плошча ў Менску
23. Станіслаў Жукоўскі. Інтэр'ер
24. Пакроўскі сабор у Баранавічах

## РЭЦЭНЗІІ

прывілеях. Гэтую працу збольшага ўжо зрабілі дасьледчыкі XIX ст., бо Статуты вядомыя даўно, яны навідавоку. Цяпер актуальным зьяўляецца вывучэньне таго, а ці не разыходзіўся закон з практыкай, як практыка ўплывала на прыняцьце новага закону. Неабходна зьвяртацца да неабсяжнага мора судовай дакумэнтацыі, якая яшчэ ў большасьці неапублікаваная. Да гэтай складанай задачы ўжо прыступілі замежныя дасьледчыкі, прыкладам, літоўская калега Г.Дзербінай – І.Валіканітэ, якая шмат гадоў назад абараніла дысэртацыю пад тыповай тагачаснай назвай «Сацыяльна-эканамічнае і прававое становішча жанчыны ў Вялікім Княстве Літоўскім (канец XV – першая палова XVI ст) і яго адлюстраваньне ў Першым Літоўскім Статуце». Працы гэтай дасьледчыцы ў кнізе Г.Дзербінай не ўпамінаюцца, гэта незразумела, як і абмінаньне акадэмічнага шматтомнага літоўскага выданьня Статута 1529 г. Пісаць пра сям'ю азначае пісаць пра становішча жанчыны. Жанчына ёсьць сапраўдная гераіня кнігі Г.Дзербінай. Аўтарка высока адзываецца пра маральнае аблічча жанчыны XVI-XVII стст. І не згаджаецца з украінскім дасьледчыкам XIX ст. А.Лявіцкім, што заганаў у тыя часы было больш за цнотаў. Пэўна, праўда на баку Г.Дзербінай. Кніга падняла цікавую праблему: чаму ў тыя стагодзьдзі няма яскравага прыкладу жаночага лёсу, які б паказаў сапраўдную самаахвярнасьць. Здаецца, жанчыны эпохі Рэнэсансу не імкнуліся ўзьняцца над абставінамі складаўшагася жыцьця. Але гэта ўжо іншая тэма. Кніга ж адметная і тым, што ў ёй шмат месца адведзена выпрацоўцы беларускай юрыдычнай тэрміналёгіі. Нарэшце наша навука дачакалася больш адэкватнага перакладу знакамітага нямецкага кодэксу, назву якога дасюль перакладалі як «Саксонскае зярцала». Зразумела, трэба казаць «люстра», але і не «Люстра саксаў», а «Саксонскае люстра». Так званы Судзебнік 1468 г. даўно пара называць па-беларуску Статутам, як гэта рабілі яго першыя выдаўцы, «судзебнік» – штучнае слова расейскіх пісцоў. Наогул кніга – неабходны падмурак у нашай навуцы для дасьледаваньня старасьвецкай сям'і, просты і надзейны. Ці збудуе хто муры, бо падмурак – гэта яшчэ ня дом?

**Валеры Пазьнякоў**

### *Łatyszonek O. Białoruskie farmacje wojskowe. 1917 – 1923. Białystok, 1995. 273 s.*

Кніга Алега Латышонка пачынаецца са сьцьвярджэньня, што Беларусь стала незалежнаю дзяржаваю без усялякіх высілкаў са свайго боку. Менавіта гэткае меркаваньне распаўсюджанае сярод тых асобаў, хто хоць нешта ведае пра Беларусь.

Аўтар паставіў сабе мэту разглядзець гэтую праблему ў гістарычным ракурсе, без загадзя ўсталяваных вынікаў. Зьвярнуўшы асноўную ўвагу на вайсковую дзейнасьць беларусаў пасьля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ў Расейскай Імпэрыі, А.Латышонак прасачыў дзейнасьць беларускіх палітыкаў дзеля ўсталяваньня Беларускай дзяржаўнасьці, іхныя высілкі ў спробах арганізацыі Беларускага войска.

Кніга складаецца зь дзесяці разьдзелаў, першы зь якіх дае кароткі нарыс беларускага руху ад пачатку XX ст. да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ў Расейскай Імпэрыі. У другім разглядаецца ўжо ўласна вайсковы рух у 1917 – 1918 гадох. Абодва гэтыя разьдзелы напісаныя аўтарам на падставе апрацаваньняў, надрукаваных раней манаграфіяў і артыкулаў. З архіўных матэрыялаў скарыстаныя некалькі дакумэнтаў з архіваў Польшчы. Гэткі падыход да першага разьдзела цалкам апраўданы і лягічны, бо грамадзка-культурны рух ня ёсьць праблемаю, якая ставіцца галоўнаю. А вось да другога падыход трэба лічыць заганным. Гэтая праблема дасьледаваная ў гістарыяграфіі недастаткова. Тлумачэньні гэтаму ёсьць два – у савецкі час тэма практычна не закраналася, а ў часы незалежнасьці ўвайшлі ў дзеяньне эканамічныя матывы, інфармацыя пра беларускі вайсковы рух пасьля Лютаўскай рэвалюцыі знаходзіцца ў архівах Санкт-Пецярбурга і Масквы. Аўтар таксама, відаць, не займаўся досьледамі ў Расейскім дзярж. Ваенна-гістарычным архіве (Масква) і Расейскім дзярж. Гістарычным архіве (СПб.), лягічным было б наведаць і некаторыя іншыя расейскія архівы. Увогуле гэты разьдзел найбольш слабы ў кнізе, а сама праблема патрабуе сур'ёзных досьледаў і, маю надзею, асобнай манаграфіі.

Трэці разьдзел прысьвечаны беларускім аддзелам у жамойцкім войску, хоць ён і пакрывае час з 1918 па 1923 гг., разгледжаны таксама стасункі беларусаў і жамойтаў у 1915–1918 гг., але гэтыя факты трэба прызнаць зьбегам абставінаў. Як кажуць, "ад беднасьці". Аўтар цалкам слушна канстатуе чыста кан'юнктурны характар жамойцкай падтрымкі.

Чацьвёрты разьдзел – гэта палітыка Савецкай Расеі ў 1918–1920 гадох да Беларусі ў вайсковай сфэры. Да гэтага разьдзелу можна зрабіць падобныя заўвагі, як да другога, зьмяніўшы назвы архіваў.

У пятым разьдзеле – "Дзейнасьць Беларускай Вайсковай Камісіі ў 1919–1921 гадох" у невялікім аб'ёме, аднак поўна й падрабязна, паказаныя высілкі БВК па стварэньню ўласнага войска.

Наступны разьдзел прысьвечаны вайсковым фармаваньням генэрал-маёра Станіслава-Мар'яна Булак-Балаховіча. Тэматычна зь ім зьвязаныя й наступныя два – пра Слуцкі збройны чын і расфармаваньне беларускіх вайсковых аддзелаў у Польшчы.

Дзейнасьць генэрала С.Булак-Балаховіча прадстаўлена вельмі падрабязна, з выкарыстаньнем шматлікіх зьвестак з польскіх архіваў. Аўтар закранаў гэтую тэму ў некалькіх артыкулах, і, як здаецца, менавіта яна стала ядром задумы кнігі. Адзіны тып крыніцаў, які аўтар не скарыстаў, гэта ўспаміны расейскіх эмігрантаў, калі пашукаць, дык і сярод пэрыядычнага расейскага эміграцкага руху магчымы знаходкі.

У дачыненьні да Слуцкага вайсковага чыну, напэўна, трэба было скарыстаць "успаміны" А.Сокала-Кутылоўскага.

Як дапаўненьне да агульнага ўражаньня можна разглядаць дзевяты разьдзел, пра іншыя вайсковыя фармаваньні, зьвестак пра якія пакуль што няшмат. Гэта Беларуская дывізія ў Адэсе (1919), спробы ўтварэньня ўрадам БНР на чале з А.Луцкевічам з ваеннапалонных у Нямеччыне і Францыі вайсковых аддзелаў (1919-1920), і атрады г.зв. Койданаўскай Самастойнай Рэспублікі.

Вельмі цікавым ёсьць апошні разьдзел, пра мундуры й вайсковыя адзнакі, а іх выгляд можна пабачыць на фотаздымках.

У падсумаваньні ўсёй кнігі аўтар дае адказ на тое, з чаго пачаў, лічбаю 11 000 афіцэраў і жаўнераў, якія рабілі высілкі і са зброяй у руках змагаліся за Бацькаўшчыну. Аднак чыста вайсковы рух без належнага палітычнага кіраваньня, а найперш адзінасьці ў ім, нічога на дае, колькі б ня было тых людзей. У Малдове быў 100 000-ны Беларускі корпус, які зьнік як дым, нічым сабе не праявіўшы. А.Латышонак падкрэсьлівае адсутнасьць рэалізму ў беларускіх дзеячоў, а я, разьвіваючы цьверджаньне аўтара, дадаў бы хранічную заражанасьць сацыялізмам Беларускага руху.

**Ўладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.**

Балаховіч, Станіслаў-Мар'ян Мікадзімавіч-Міхалавіч
* 10.2.1883

Зь сялянаў Ідзкай воласьці Новааляксандраўскага павету Ковенскай губерні, веравызнаньня рымска-каталіцкага.

Навучаўся ў Петраградзкай прыватнай мужчынскай гімназіі Сьв.Станіслава.

18.11.1914 па прызначэньні Начальніка Штабу Дзьвінскай Вайсковай Акругі прыбыў у полк і залічаны ў сьпісы 2 лейб-уланскага Курляндзкага палка [на 1910 г. гэты полк стаяў у г.Кальварыя].

4.6.1915 за выключнасьць у дзеяньнях супраць непрыяцеля падвышаны да рангу малодшага унтэр-афіцэра.

8.7.1915 загадам Галоўнакамандуючага арміямі Паўночна-Заходняга фронту ад 8.7.1915 за № 1604 за баявыя заслугі падвышаны да рангу прапаршчыка.

26.9.1915 загадам па войсках 5 арміі № 205 за заслугі ў справах супраць непрыяцеля ўзнагароджаны ордэнам Сьв. Ганны 3 ступені з надпісам «За храбрасьць».*

4.11.1915 камандаваны ў партызанскі атрад.

30.5.1915 будучы ніжэйшым чынам, за праявы выбітных учынкаў храбрасьці і самаадданасьці загадам па 37 армейскім корпусу за № 21 ўзнагароджаны Георгіеўскім крыжам 3 ступені за № 1006925 (загад па палку № 172).

У ноч з 8 на 9.6.1915 падчас разведкі ля вёскі Шапалішкі аскепкамі разрыўное кулі атрымаў параненьні скуры левага пляча.

8.12.1915 загадам Галоўнакамандуючага арміямі Паўночнага фронту за № 175 за заслугі ў ваенных дзеяньнях ўзнагароджаны ордэнам Сьв.Ганны 3 ступені зь мячамі і бантам.

6.12.1916 Найвышэйшым загадам зацьверджанае падвышэньне на ранг прапаршчыка армейскае кавалерыі 9.6.1915.

4.5.1916 Найвышэйшым загадам зацьверджанае ўзнагароджаньне ордэнам Сьв.Ганны 4 ступені з надпісам «За храбрасьць».

28.5.1916 Найвышэйшым загадам падвышаны ў ранг карнэта.

25.8.1916 Найвышэйшым загадам зацьверджана ўзнагароджаньне ордэна Сьв.Ганны 3 ступені зь мячамі і бантам.

12.12.1916 старшынства ў ранзе карнэта лічыцца з 9.1.1915.

24.6.1917 падвышаны да рангу паручніка, старшынства з 3.11.1916.

12.3.1918 з прычыны невяртаньня з камандыроўкі выключаны са сьпісаў палка.

Жонка: Генрыета Мартынаўна з Гарбеляў.

Дзеці:
1.Алена, * 18.4.1907
2. Мэдард-Юльюш, * 1.1.1910
3. Генрых-Мартын, * 3.6.1911

*Крыніца: Расейскі Дзяржаўны Ваенна-Гістарычны Архіў, фонд 3575, вопіс 1, справа 170, аркушы 505, 505зв., 506, 510.*

*Паслужны сьпіс атрыманы аўтарам ад Міхала Кацін-Ярцава (Масква, Расея).*

*У паслужным сьпісе відавочная памылка - трэба «4 ступень» (У. В.-Ш.).*

*Генэрал-маёр Станіслаў-Мар'ян Булак-Балаховіч у беларускім мундуры. 25.9.1920. Здымак атрыманы аўтарам з асабістага архіву Георгія Тарноўскага (Ланс-дэйл, Пэнсыльванія, ЗША). Друкуецца ўпершыню.*



Ігнат Канчэўскі

# ВЕРШЫ ЗЬ ВІЛЕНСКАГА АРХІВУ

* * *

Не хавайце мяне ў цмантары, —
Пахавайце мяне пры дарозе,
На вярху зялянавай гары,
Пад услоньнем плакучай бярозы.
І высокі пастаўце мне крыж,
Памалюйце яго на зялёна;
Хай у сьвятую глыбокую выш
Ён працягне нямыя далоні.
Усё жыцьцё жыць хацеў я зь людзьмі
Ў іх працоўнай, пакутлівай долі.
Хай жа разам з жывымі ў полі
Пабягуць мае ночы і дні
На гаротным працоўным раздольлі —
Пахавайце-ж мяне ў чыстым полі.

* * *

Чэрвень красаваў маёвымі кветкамі.
млявае сонца садзілася за гарою.
А блакітнае неба з хмаркамі рэдкімі
Дыхала пакорнасьцяй упаўшага зноем.
І гэтага вечару царкоўныя звоны
Назаўсёды ў душы маёй зазьвінелі.
Я прыняў іх у душу галодны, стамлёны
Каб яны аб духу надземскім мне пелі.
Тады з ласкавым тварам дзявочым,
І чаромухай сумнай прайшоўшага мая
Павёў мяне звон па гарах у ночы.
У цёмныя ночы страчанага раю.
У страчаны рай, у дакучную штодзённасьць,
У голад і бруд, у ліхую нядолю...
Ах ці аб тым летуцеў, ці таго хацелась
У вечар чэрвянёвы ласкавы і кволы!

**ТАК ГЛЫБОКА...**

Так глыбока нешта ў сэрцы грае,
Што сама ня ў стане разгадаць.
Ведаю, што маю і ня маю.
Як дзяньніца краскі раскідае,
Так хачу тварыць і раскідаць.

Сеець ноч туман алмазны з зорак.
Сонца тчэ вясёлачку з расы.
А вясна пахучых кветак морам
Заліла луг, пышны панадворак —
Сад жыцьця каханьня і красы.

У душы маёй бы раскВітаюць зоркі.
Чую — пра́ліваюцца к грудзям
Чад вясны бы пах мігдалаў горкіх.
І шапоча штосьці: кветкі, зоркі —
Усё, што маю міламу аддам!

* * *

Па сьвятой зямлі — Яго сьвятыя ногі
Да схілёных голаў — рук сьвятых прыткненьне...
Падарожнага пазналі ўсе дарогі
І даюць прытулак усе Яму каменьні.
Буйны вецер — адгалосак грознай буры,
Прыбліжоннай буры ды для нас далёкай.
Сьціхнуць нема ўраз сьляпыя ўсе віхуры
Як пачуюцца імі*) сьвятога крокі.
І пазнаюць вобраз чысты і чаканы
Усе блудніцы, усе, хто ў зморы і агідзе
Усе, хто брудны быў, слабы ці хворы, п'яны,
Бо ім штосьць шаптаў увесь час праканана:
— Так, Ён прыйдзе, Ён напэўна прыйдзе!

**) Слова перакрэсьлена простым алоўкам (А.А.)*

**САКАВІК**

З сонцам яснацветным золатна-пякучым
У блакітах неба пад дзіцячы крык,
Ласку пацалункаў веснавых нясучы
Зноў закрасаваўся шчасны сакавік.

Алесь Аркуш

# КРЫЖ ЭЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ

Надвор'е выдалася паганым. Тры дні запар ішоў мярзотны, халодны дождж. Тры дні сьвінцовае аблогі. Нішто так не выстуджвае ўвосень і двор, і жытло, як гэткае безнадзейнае занудзтва. І трэба ж было ўпільнаваць дрэнь-надвор'е для сьвята. Зь дзяцінства памятаю, як усяк казалі пра жыдоўскі або каталіцкі Вялікдзень. Усё больш сумотная непагадзь. Затое наш Вялікдзень быў заўжды сонечны, па-веснавому ўрачысты. Гэтая вiдавочная перавага заўжды ўзгадвалася ў перадсьвяточных гутарках дарослых. Любіла яе і моладзь. Ня зь нейкіх ідэалягічна-канфэсійных меркаваньняў, хутчэй з жыцьцёва-практычных. Сьвяткаваць Хрыстова ўваскрашэньне можна было на прыродзе, без нагляду дарослага вока. Традыцыйна «хрыстос уваскрос» імкнуліся «прамовіць» так, каб узгадваць затым цэлы год. Да наступнага Вялікадня.

Горад загадзя рыхтавалі да сьвята. Нават пад дажджом уздоўж шляху да сьвятыні фарбавалі фасады дамоў. Усё гэта выглядала камічна і трагічна адначасова. Далібог, камічна глядзець на працэс фарбаваньня пад дажджом. Бедныя маляры, мокрыя і выпэцканыя ў фарбу дарэшты, бесьперапынна чулі спагадлівыя кпіны і жарты мінакоў. Падобны гумар узьнікае самаадвольна. Як ад экранных блазнаваньняў Чарлі Чапліна. На самой справе нібыта і грэх сьмяяцца, калі б'юць некага палкай, ці — банальна — кулаком па твары. Але сьмяесься. У той самы час справа, якая робіцца марна, заўсёды трагічная. Трагізм яе ня столькі ў бязмэтнасьці, колькі ў фатальнай наканаванасьці. Як сьмерць. Усе разумеюць — і той, хто аддаў загад, і той, хто яго выконвае, што фарбаваць пад дажджом — тое самае, што карміць некага намаляванымі на паперы стравамі. І ўсё адно фарбуюць. Наканаванасьць. Так трэба. Бо на сьвята мусіць прыехаць прэзыдэнт. «Э-э-э, — скажа ён бацькам гораду, калі пабачыць наўкол занядбанасьць і неруплівасьць, — пэўна, вы нядбайныя кіраўнікі, бо спраўны гаспадар заўжды прыбярэ ў хаце да госьця». Вядома, прыбраць трэба. Вось толькі з надвор'ем не пашанцавала.

Мы ідзем па вуліцы Эўфрасіньні Полацкай. Яшчэ мяккі асфальт пакідае на сваім целе адбіткі нашых падэшваў. Васіль Кроква — зацяты, аскетычны дзяцюк, якога ведаю зь дзяцінства і даўно прызвычаіўся да ягонага хлапечага максымалізму. Тамаш Гурба — разважлівы і цярплівы да чужой думкі. Ня любіць спрачацца. Часам непасьлядоўны ў сваіх перакананьнях. Аднак заўсёды мае рэальную мэту наперадзе. І вельмі часта яе дасягае. Мае сябры жывуць у іншых гарадох. Яны прыехалі на сьвята. Яшчэ ўчора ўвечары мы сабраліся разам за маім круглым кухонным сталом. Гутарылі да змружаных павекаў. Кроква, як зазвычай, усё граміў і пляжыў. «Гэта прафанацыя — рабіць дублікат Крыжа Эўфрасіньні. Папершае, такія рэчы ня робяцца партыямі, па-другое — не Філарэту яго асьвячаць». Ён запаляўся і апантана трос відэлец з лусьцікам каўбасы перад маім носам. «Немагчыма другі раз намаляваць Джаконду. А тут табе не Джаконда — гэты Крыж — наш лёс і сымбаль, мільёны і мільёны нашых продкаў намольвалі яго, гэта крыніца духовай сілы, яго немажліва прадубляваць». Кроква нібыта «разносіў» мяне за тое, што я даў дазвол на выраб копіі сьвятыні. «Чаго ты сюды прыехаў?» — не стрываў Тамаш. Дзіўна, але Гурба ўлез у спрэчку. Хлопец, напэўна, хацеў спаць — нясьцерпнае жаданьне прытупіла ягоную пільнасьць. «А каб быць сьведкам прафанацыі веку. Аднойчы езуіты вырабілі копію. Вядома, зь якой мэтай. Копія — заўжды падман». Кроква мяне таксама стаміў. «Ніхто не зьбіраецца гэты крыж уважаць за сапраўдны, — Васіль умеў запаліць суразмоўцу, таму я адказаў яму з адпаведным запалам і тэмпэрамэнтам. — Аднак, дзядзька, уяві, што большасьць нашых людзей, гэтак званых беларусаў, ніколі ня чулі, што быў такі Крыж, які на загад Эўфрасіньні Полацкай зрабіў Лазар Богша і які лічыцца нацыянальнай сьвятыняй. Яны ня чулі пра ягоны лёс, што Крыж зьнік падчас Другой сусьветнай вайны і што яго марна шукаюць па сёньняшні дзень. Уявіў? Цяпер уяві, што выраблюючы дублікат, безьліч людзей былі задзейнічаныя ў справу, у тым ліку вышэйшых герархаў зь Ерусаліму, да якіх мітрапаліт зьвяртаўся па дапамогу. Сама па сабе гэта была гучная культурніцкая акцыя. Была нагода пісаць пра Крыж скрозь і шматкроць. Выйшлі кнігі пра сьвятыню. Гэта была нацыянальная інфармацыйная кампанія. Бо згадзіся, калі прынцэса Дыяна пачала змагацца за забарону процілпяхотных мінаў, шмат у каго зьявілася пачуцьцё кан'юнктуры і таннага тэатру. Трэба проста разумець, зь якой мэтай нешта робіцца і якія вынікі можна гэтым дасягнуць». Мае словы яшчэ больш распалілі Крокву. Ён пачаў казаць пра падставовыя рэчы, праз якія нельга пераступаць, маўляў, мусіць жа быць нешта сьвятое, што нельга выкарыстоўваць ні ў якіх кампаніях — ні ў гандлёвых, ні ў палітычных, ні ў інфармацыйных, нягледзячы на самыя высакародныя мэты і задачы.

Камусьці звонку магло падацца, што назаўтра пасьля такой гутаркі ўчорашнія сябры не павітаюцца. Ён памыліўся б.

Яшчэ ўчора я ведаў, што ніякага прэзыдэнта на сьвяце ня будзе. Больш за тое, амаль увесь папярэдні сцэнар: вынас Крыжа з Сафійскага сабору, урачыстае шэсьце ад Сафійкі да Спаса-Эўфрасіньнеўскага манастыра — адмянілі. Гэтыя навіны ўдала працавалі на млын Кроквы. Васіль кпіў са «спрыяльнага» надвор'я, са спрашчэньня сьвята, зь пераменлівых рэлігійных пачуцьцяў прэзыдэнта, з эфэктыўнасьці інфармацыйнай кампаніі і г.д. і г.д. Актуальнасьць сьвята для краіны мы пачалі ўсведамляць па дарозе. Лічаныя людзі ішлі ў нашым кірунку. Падыходзячы да брамы манастыра, я налічыў усяго некалькі міжгародніх «Ікарусаў». Дождж з самай раніцы не пераставаў церусіць. На манастырскім пляцы пад парасонамі тоўпіліся паломнікі. Было іх, як зазвычай на Вялікдзень, калі зьбіраюцца толькі палачане. На ганку дому, у якім жывуць манашкі, пад бляшаным брыльком хаваліся ад дажджу журналісты. Ніякай сьвяточнасьці і прыўзьнятасьці на тварах у людзей не было. Наадварот, ва ўсім прачытвалася шчырая журба, нават больш — будзённасьць нейкага звыклага мерапрыемства. Урачыстае набажэнства, якое павінна было адбыцца ў Крыжа-Ўзьвіжанскім саборы, затрымлівалася. Знаёмыя журналісты паведамілі, што ўладыка чакае гасьцей — прэм'ер-міністра са сьвітай, апошнія спазьняюцца ўжо на гадзіну. Раптам над манастыром пачуўся голас «едуць, едуць!» (ці не са званіцы) і сам мітрапаліт у коле япіскапаў рушыў да брамы сустракаць гасьцей. Манашкі, якія сшыхтаваліся шнуром, па-савецку ўручылі старшыні ўраду хлеб-соль. Мітрапаліт і прэм'ер абняліся і пацалаваліся. Хаўрусным натоўпам госьці і гаспадары зьніклі за дзьвярыма храма. Усьлед павалілі шараговыя вернікі. Усчалася штурханіна. Гурба спрытна ўшрубаваўся ў чалавечую плынь. Нейкі час я бачыў ягоную каротка абстрыжаную патыліцу, якая ўдала прасунулася ў прэздзіну царквы. Кроква адмовіўся штурхацца і застаўся на вуліцы, традыцыйна-зьедліва пракамэнтаваўшы падзею — «як у краму, гэтак жа і ў храм боскі». Я вырашыў пачакаць —няхай большасьць зойдзе, пэўна ж мне, худому акулярніку, усё ж застанецца які пятачок. Актыўна шчаміцца было прыкра. Хвілін праз пятнаццаць я ўваайшоў у сабор. Спрабуючы не штурхацца, на дыбачках прасунуўся крокаў на дванаццаць ад уваходу. Праўда, нягледзячы на ўсе перасьцярогі, мяне некалькі разоў аблаялі, а адзін раз дык памацернаму. Маўляў, шчаміцца трэба, калі шчэміцца ўсе, а заразы куды прэсься. У царкве ўжо было задушна. Мокры натоўп пачаў выпарацца. Задуха і вільгаць наганялі млосьць. Бабулі, якая стаяла крокаў за дзесяць наперадзе, стала кепска, яе падхапілі пад рукі і пачалі выцягваць вонкі. Голас Філарэта далятаў да майго кута невыразна, і я чуў, бадай, адно манатонны гуд, у які зьліваліся словы набажэнства. Яшчэ хвілін праз дваццаць здаравенная цётка, як два мяне, з бульдозэрным імпэтам пачала ламіцца да выхаду. (Адна мая знаёмая сказала б: як лось па кукурузе.) Людзі абураліся, але яна голасна верашчала, што ў яе аўтобус на Докшыцы праз паўгадзіны, і з-за іх, абуральнікаў, яна можа спазьніцца. Я скіраваўся ў цётчын фарватар і апынуўся на сьвежым паветры. Побач з уваходам у царкву ляжала бабуля, якую на маіх вачах выцягнулі з сабору. «Хуткая» яшчэ не прыехала. Я падышоў да Кроквы. Ён стаяў пасярод манастырнага пляца і тупа глядзеў на старую кабету, што ляжала на лаўцы. «Вось і першая ахвяры падману», — адно, што сказаў сябар. Хвілін дзесяць мы маўчалі. «Дзе гэты Гурба? Трэба ўжо зьбірацца», — відавочна нэрвуючыся, вымавіў я, нібы сам сабе. Гурба быў усярэдзіне, і нават калі бы мы яму перадалі ўрадавую тэлеграму, каб выбіраўся, ён усё адно ня здолеў бы гэтага зрабіць. Прыйшлося чакаць канца набажэнства. «Хуткая» доўга не прыяжджала. Бабулі на сьвежым паветры стала лягчэй, але ўзьняцца ў яе не было сілаў. Яна адзінока ляжала на вузкай мулкай лаўцы і пакутнымі вачыма глядзела ў мокрае, шэрае неба. Неўзабаве прыйшла лекарка ў белым халаце. Яна штосьці ўкалола кабеце і нетаропка пайшла да машыны, клікаць санітараў, каб тыя забралі хворую. Тыя, гэтак жа нетаропка, прыйшлі, уклалі небараку на насілкі і панесьлі. Дождж скончыўся. Але ўсё адно было золка. Сьцюдзёны вецер дакранаўся да цела халоднымі рукамі.

Яшчэ хвілінаў дваццаць чакалі Гурбу ўжо пасьля сканчэньня набажэнства. Людзі па чарзе пачалі цалаваць Крыж і атрымоўваць на памяць паштоўку зь ягонай выявай. Вядома, Гурба ня мог сысьці без выкананьня поўнай праграмы.

Вярталіся моўчкі. Па дарозе сустрэлі дзьвюх бабуляў. Адна ішла ў манастыр, другая — з манастыра. «Ну тык ці ёсьць тамака Лукашэнка?» — спытала ў знаёмай тая, што ішла да манастыра. «Нямашака. Ня бачыла», — скрушна адказала бабця, якая вярталася дахаты. На добрай хуткасці іх абмінуў «Ікарус», поўны нейкіх чыноўнікаў у гарнітурах і гальштуках, аўтобус скіраваўся да манастыра. «Вунь, пэўна ж там паехаў... Лукашэнка», — выказала здагадку тая, што спазьнілася. Абедзьве бабулькі старэчымі крокамі, трымаючы адна адну, пасунулі ўсьлед за аўтобусам.

